# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 1 (5) | 12 студзеня 1929 г. | № 1 (5)


## ЗЬМЕСТ



# Перавыбары саветаў

## Уся ўвага вырашэньню задач перавыбараў сельскіх і гарадзкіх саветаў

Справаздачнасьць саветаў заканчываецца, распачынаюцца ўжо па ўсіх раёнах Беларусі перавыбары сельскіх і местачковых саветаў, мы ўплатную падыходзім да перавыбараў гарадзкіх саветаў. Клясавая барацьба ў часы падрыхтоўчай і справаздачнай кампаніі на вёсцы абвастрылася як ніколі. Кулацтва, нэпманы і іншыя варожыя элементы, ня гледзячы на ўпартасьць і арганізаванасьць у часы справаздачнай кампаніі, спасавалі перад сілай, сьвядомасьцю і арганізаванасьцю батрака і беднаты ў саюзе з серадняком, пры ўдзеле савецкай грамадзкасьці пад неаслабным кіраўніцтвам партарганізацый на мясцох. Аднак, было-б памылкай думаць, што варожыя нам сілы не падымуць сваёй галавы ў рашучы час самых перавыбараў сельскіх і гарадзкіх саветаў. Трэба мець на ўвазе, што кулак на вёсцы і нэпман у горадзе пры перавыбарах саветаў, у барацьбе за ўладаньне саветамі, многакратна павялічыць сваю актыўнасьць. Таму неабходна зараз-жа для належнага ім адпору яшчэ больш згуртаваць вакол партыі і саветаў пралетарыят, батрацтва, вясковую беднату, серадняцтва, мабілізаваць усе сілы партыі, прафсаюзаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці на перавыбары саветаў. Вось якая галоўная задача зараз стаіць перад намі.

**Посьпехі нашага сацыялістычнага будаўніцтва выклікаюць шалёную, нячувалую барацьбу і хлусьню супроць нас з боку сусьветнай буржуазіі і іх памоцнікаў сацыял-здраднікаў па-за межамі**. Па Саюзу Савецкіх Рэспублік за адно з буржуазіяй усяго сьвету, з сусьветным фашызмам выступаюць нашы ўнутраныя клясавыя ворагі—кулак і нэпман.

Бачучы, як з кожным годам павялічваецца і пашыраецца будаўніцтва сацыялізму, як узмацняюцца сіла і моц рабочага клясу і беднаты і іх саюзьніка-серадняка, кулак і гандляр-прыватнік усё больш шалеюць у сваёй клясавай ненавісьці да савецкай улады і камуністычнае партыі. **Кулаку і нэпману ненавісна савецкая ўлада, яна не дае ім разгарнуць іх прыватна-капіталістычныя імкненьні, не дае ім сьцісьнуць і прыдушыць беднату і батрацтва, падпарадкаваць сабе серадняка і гаспадарнічаць пасвойму так, як гэта было ў часы да Кастрычнікавай Рэвалюцыі**. Кулак і нэпман стараюцца паслабіць і падарваць нашае сацыялістычнае будаўніцтва і абароназдольнасьць нашай краіны. Яны імкнуцца пралезьці ў савецкі, гаспадарчы і асабліва ў каперацыйна-гандлёвы апарат, падпарадкаваць свайму ўплыву паасобныя звеньні нашага апарату і скарыстаць у сваіх мэтах мерапрыемствы Савецкай улады па галінах каперараваньня, крэдыту, снабжэньня сельска-гаспадарчымі машынамі, насеньнем і г. д.

Таму ў перавыбарах саветаў **нам трэба рашуча разаблачаць кожны крок кулака і нэпмана,** накіраваны супроць інтарэсаў працоўных мас, усякую спробу кулака і нэпмана пралезьці ў савет ці ў наш савецкі апарат, рашуча ачышчаць саветы ад кулацка-нэпманаўскіх і іншых варожых савецкай уладзе элемэнтаў, даючы адпор і ўсім тым, хто падаецца іх уплыву. **Ва ўсёй працы па перавыбарах саветаў трэба весьці вытрыманую клясавую лінію, грунтованую на ўсямерным узмацненьні пазіцый пралетарыяту гораду і вёскі** і вясковай беднаты, на ўсямерным правільным замацаваньні саюзу іх з серадняком, на сыстэматычным сумесным іх, пад кіраўніцтвам Партыі, наступленьні на кулака і нэпмана.

Наша міжнародная і ўнутраная абстаноўка патрабуюць ад нас далейшага бесьперапыннага разгортваньня сацыялістычнага наступленьня ўперад, няўхільнага правядзеньня ў жыцьцё індустрыялізацыі краіны так, каб ня толькі захаваць сучасны тэмп

індустрыялізацыі, а ўзмацняць і пасоўваць шпарчэй уперад. Толькі пры такіх умовах мы зможам пасьпяхова будаваць сваю сацыялістычную гаспадарку і ўзмацняць сваю эканамічную незалежнасьць ад капіталістычных дзяржаў. Наша прамысловасьць у сваім разьвіцьці перайшла далёка за даваенны ўзровень. **Дзяржава з кожным годам усё больш і больш адпускае сродкаў на капітальнае будаўніцтва нашай прамысловасьці. Мы будуем Асінаўскую электрастанцыю, гэты гігант сацыялістычнай прамысловасьці—імя тав. Сталіна, мы будуем цэлы шэраг новых фабрык і заводаў, пераводзячы фабрыкі на хаду на сямігадзінны рабочы дзень.** З кожным годам павялічваецца ўдзельная вага прамысловасьці і сацыялістычнага сэктару ў агульнай народнай гаспадарцы нашай краіны.

Камуністычная Партыя і Савецкая Ўлада паставілі перад сабой задачу ўсямернага ўздыму сельскае гаспадаркі, узмацненьня тэмпу шырокага яе разьвіцьця. Мы маем зараз значны рост сельскае гаспадаркі, які выражаецца ў паступовым узросьце пасяўной плошчы, засеву чыстасортавым насеньнем, тэхнічных культур, у пераходзе на землеўпарадкаваньне, шматпольле, узросьце забясьпечаньня жывым і мёртвым інвентаром і г. д. **Аднак, тэмп разьвіцьця сельскае гаспадаркі, асабліва зерневай яе часткі, зусім недастатковы.** Таму нам трэба прыкласьці ўсе сілы, каб павялічыць тэмп разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Трэба ў час перавыбараў саветаў растлумачыць шырокім масам насельніцтва (для выкананьня) пастанову Сэсіі ЦВК Саюзу ССР аб падняцьці ўраджайнасьці на 30-35 проц. за бліжэйшыя пяць год.

Дзеля таго, каб дасягнуць найвялікшага ўздыму сельскае гаспадаркі, неабходна поўнасьцю забясьпечыць разьвіцьцё масавага каапераваньня і калектывізацыі сельскае гаспадаркі. **Бо аб'яднаньне паасобных гаспадарак у калектывы і арцелі ёсьць той вялікі шлях, па якому асноўная маса сялянства будзе пасоўвацца ўперад, да ўздыму і перабудовы сельскае гаспадаркі на сацыялістычны лад.**

Нам неабходна асабліва ўважліва сачыць за правільным і поўным скарыстаньнем сродкаў, якія накіроўваюцца Савецкім Урадам у сельскую гаспадарку на падтрыманьне яе сацыялістычнага сэктару. Зразумела, што пры гэтым нам неабходна ўсямерна садзейнічаць уздыму індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, ахапляючы іх кааперацыйнымі арганізацыямі, кантрактацыяй і г. д.

Ня гледзячы на вялізарныя дасягненьні ў нашым сацыялістычным будаўніцтве на Беларусі за 10 год, што канстатавала і Юбілейная Сэсія ЦВК, мы яшчэ не ліквідавалі жыльлёвага крызісу ў гарадох і рабочых пасёлках. Гэта справа патрабуе да сябе выключнай увагі на бліжэйшыя некалькі год. **Нам неабходна дабівацца максымальнага патаненьня будаўніцтва, правільнага скарыстаньня сродкаў, стварэньня лепшых жыльлёвых умоў.** Разам з гэтым неабходна ўдзяліць больш увагі дабрабыту гарадоў, мястэчак і вёскі. Гэтыя галіны працы саветаў набываюць асаблівае значэньне ва ўмовах разгортваньня культурнага будаўніцтва і ўзросту культурных запатрабаваньняў працоўных мас.

Партыя і Савецкая Ўлада правільна вырашылі, правільна і паступова ажыцьцяўляюць нацыянальнае пытаньне. Палітыка Партыі і Савецкае ўлады накіравана на тое, каб забясьпечыць культурнае разьвіцьцё, эканамічны ўздым усіх нацыянальнасьцяй у братэрскім іх супрацоўніцтве. Кулацкія і іншыя буржуазныя элемэнты і тут стараюцца правадзіць сваю буржуазна-нацыялістычную і шавіністычную лінію, яны імкнуцца ўсялякімі спосабамі шкодзіць правядзенью савецкае нацыянальнае палітыкі. Мы зусім нядаўна мелі цэлы шэраг праяўленьняў кулацкага і іншага антысемітызму.

У часы перавыбараў саветаў і ў далейшай іх працы неабходна ўсямерна падтрымліваць **і ажыцьцяўляць на справе братэрскае сатрудніцтва працоўных усіх нацыянальнасьцяй, даючы рашучы адпор усякім праяўленьням шавінізму і антысемітызму; забясьпечыць разьвіцьцё беларускае культуры і культуры нацыянальных меншасьцяй, закончыць беларусізацыю апарату, забясьпечыць поўнае абслугоўваньне нацменшасьцяй Беларусі,** павялічыць інтэрнацыянальнае выхаваньне рабоча-сялянскіх мас.

Усе гэтыя задачы, якія стаяць перад выбарамі саветаў, могуць быць вырашаны толькі тады, калі ў вырашэньні іх будуць удзельнічаць самыя шырокія масы рабочых і работніц, сялян і сялянак (батракоў, беднаты і серадпякоў), увесь пагалоўна савецкі актыў і прафсаюзы. Трэба адзначыць, што пры справаздачнай кампаніі галоўнейшым недахопам было ў цэлым шэрагу месц—недастатковая яўка на сходы выбаршчыкаў, асабліва жанчын. У часы правядзеньня выбарчых сходаў— гэты недахоп трэба рашуча зьнішчыць.

Гарсаветы зараз становяцца ў цэнтру найбольшай увагі рабочых мас гарадоў, якія рыхтуюцца да перавыбараў з усімі відамі беспашчаднае пралетарскае дзелавое крытыкі. **Задача дэпутатаў гарсаветаў зараз заключаецца ў тым, каб праўдзіва з поўнай адказнасьцю за сваю працу і працу гарсавету ў цэлым далажыць сваім выбаршчыкам вынікі двугадовай працы і культурна-гаспадарчага будаўніцтва.** Разам з гэтым дэпутат Гарсавету павінен сказаць выбаршчыкам і паслухаць выбаршчыкаў аб тым, як гарсавет быў зьвязан з рабочымі масамі, як прымаў гарсавет і яго адказныя працаўнікі рабочых і наведвальнікаў, якія прыходзілі за нарадай і дапамогай, аб выпадках бюракратызму і як пакараны бюракраты; як ажыцьцяўляў гарсавет прынцыпы пралетарскай дэмакратыі—фармальна ці па сутнасьці, аб адклікані і замене шляхам давыбараў неадпавядаючых дэпутатаў.

**Саветы павінны ва ўсёй сваёй працы абапірацца на рабочыя арганізацыі, на арганізацыі беднаты. Саветы павінны дапамагаць і садзейнічаць замацаваньню арганізацый беднаты.** Пры выбарах саветаў неабходна рашуча ажыцьцяўляць высоўваньне на сталую працу ў савецкі апарат рабочых, батракоў, беднякоў і вытрыманых, стойкіх серадпякоў, з выкаваўшагася савецкага актыву і сьвежых пралетарскіх сіл гораду і вёскі. Маючы на ўвазе вялікую важнасьць палітычнай кампаніі перавыбараў саветаў, час выбараў павінен быць свабодзен ад усіх іншых кампаній.

Толькі актыўны ўдзел шырокіх мас у нашым будаўніцтве пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі забясьпеча вырашэньне ўсіх вялікіх задач, якія пастаўлены перад краінай саветаў вялікай Кастрычнікавай Рэвалюцыяй.

А. Хацкевіч.

# НАШ КОНКУРС.

## Усім старшыням конкурсных камісій пры АВК, камісій садзейнічаньня правядзеньню конкурсу пры райвыканкомах і гарсаветах.

*ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!*

*З мэтаю большага ажыўленьня і паляпшэньня якасьці работы саветаў, іх сэкцый і камісій зараз праводзіцца, згодна пастанову ЦВК БССР, конкурс на лепшую сэкцыю гарсавету і лепшыя сельскі і местачковы саветы з іх камісіямі. Пастаўленыя перад конкурсам задачы могуць быць ажыцьцёўлены толькі пры ўмове актыўнага ўдзелу ў конкурснай працы ўсіх колаў савецкае грамадзкасьці і асабліва рабселькораўскае масы. Бязумоўна, што для гэтага трэба было правесьці належную папярэднюю арганізацыйна-падрыхтоўчую работу па конкурсу. Між тым, матар'ялы, якія маюцца ў нас, сьведчаць, што праца па конкурсу на мясцох да гэтага часу (а конкурс пачаўся з 1-XII 28 г.) амаль зусім не разгорнута. Такое становішча і спазьненьне з конкурснай працай асабліва шкодна яшчэ і таму, што зараз праходзіць справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў, з якой можна было з вялікім поспехам увязаць і правядзеньне конкурсу, паколькі на справаздачна-перавыбарчых сходах робіцца калектыўная ацэнка працы саветаў.*

*Зьвяртаючыся да Вас з гэтым лістом, прашу прыняць меры да неадкладнага разгортваньня конкурснае работы, уцягнуўшы ў гэту работу шырокія колы нашае савецкае грамадзкасьці, шляхам зьмяшчэньня матар'ялаў і артыкулаў аб конкурсе ў газэтах, як мясцовых, гэтак і цэнтральных, шляхам уцягненьня ў гэтую працу грамадзкіх арганізацый (камсамолу, кпаерацыі, прафсаюзаў, шэфскіх арганізацый, настаўніцтва, культасьветных працаўнікоў і інш.), шляхам утварэньня праверкі выконваемае работы конкурсных камісій і арганізацый, якія прыймаюць удзел у працы па конкурсу.*

*Старшыня конкурснай камісіі пры ЦВК БССР* **А. Хацкевіч.**

## Конкурс разгарнуць безадкладна.

Згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР тэрмін правядзеньня конкурсу на лепшую сэкцыю, камісію, сельскі і местачковы саветы ўстаноўлены з 1-га сьнежня па 1-га красавіка, прычым, першыя два месяца адводзяцца на конкурс унутрыакруговы, а апошнія на ўсебеларускі конкурс. Тэрмін правядзеньня конкурсу праднамерана прыстасованы да справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў з мэтаю скарыстаньня апошняе для наданьня конкурсу характару найбольш шырокай грамадзкасьці. Гэтай умове, як ніякая іншая, адпавядае справаздачна-перавыбарчая кампанія, калі адбываецца цэлая сэрыя сходаў: беднаты, актыву, жанчын, саюзных арганізацый, камсамольскіх, сялянства і шэрагу іншых грамадзкіх арганізацый, што забясьпечвае магчымасьць уцягваць у конкурсную кампанію самыя шырокія колы рабочых і сялянскіх мас.

Справаздачная кампанія па сутнасьці зьяўляецца таксама аглядам дзейнасьці саветаў з той толькі розьніцай, што гэты агляд уложаны ў больш вузкія рамкі, у той час, як конкурс носіць форму агляду значна больш шырокую. Само собой зразумела, што справаздачная кампанія саветаў, пры ўмелай увязцы з конкурснай работай, павінна была-б даць самы багаты матар'ял для конкурсу, адлюстроўваючы ўсебакова як станоўчыя, так і адмоўныя бакі практычнае дзейнасьці саветаў, іх сэкцый і камісій. Аднак-жа прайшло ўжо каля аднаго месяца вызначанага для конкурсу тэрміну і скончылася справаздачная кампанія саветаў, калі ня лічыць гарсаветаў акруговых гарадоў, а конкурс да гэтага часу на мясцох зусім не разгарнуўся. У чым-жа належыць шукаць перашкодаў гэтаму?

Некаторай перашкодай, папершае, зьяўляецца тое, што інструкцыя - плян правядзеньня конкурсу атрыман на мясцох даволі такі позна: каля 10—15 сьнежня, гэта значыць, калі палова справаздачнай кампаніі прайшла. Але-ж позьняе атрыманьне інструкцыі не магло затрымаць разгортваньня конкурснай работы на такі доўгі час ужо таму, што за поўмесяца да справаздачнай кампаніі акругам даны былі ўказаньні аб правядзеньні арганізацыйна - падрыхтоўчае да конкурсу работы: стварэньне конкурсных камісій, тэрміны конкурсу, вызначаныя асноўныя задачы яго і інш. У сапраўднасьці-ж справа абстаіць так, што ў многіх мясцох яшчэ да гэтага часу арганізацыйна-падрыхтоўчая работа не праведзена. А там-жа, дзе камісіі ўжо створаны, апошнія амаль што нічога не зрабілі ў тым напрамку, каб дакладна наладзіць практычную работу па конкурсу ў раёнах і саветах: не праведзены інструкцыйныя нарады, ня было праверкі арганізацыйна-падрыхтоўчае работы да конкурсу. У выніку такіх адносін акруговых камісій конкурсная работа застаецца покуль што апаратнаю работаю і напаказ шырокім масам гораду, вёскі і мястэчка—ня выносіцца. Зразумела, што надалей гэтакая пастаноўка конкурснае работы ня можа быць застаўлена: акруговым конкурсным камісіям неабходна зараз-жа, поруч з работаю па перавыбарах саветаў, разгортваць конкурсную кампанію, безадкладна наладжваючы інструктаваньне і праверку гэтае работы ў раёнах і саветах.

Грунтоўнейшаю перашкодаю ў слабым разгортваньні конкурсу зьяўляецца тое, што на мясцох ня сумелі ўвязаць конкурснае кампаніі са справаздачнасьцю саветаў. Значная частка працаўнікоў месц лічыць, што конкурс нельга ўціскаць у кампанію справаздачна-перавыбарчую, каб тым самым не перашкодзіць пасьпяховаму правядзеньню апошніх. Такі погляд вядома груба памылковы; правядзеньне конкурсу аднагасова з справаздачна-перавыбарчай кампаніяй не на многа ўскладняла работу месц: справа толькі ў тым, каб дакладна наладзіць карыстаньне ўсіх тых матар'ялаў, характарызуючых практычную дзейнасьць сэкцый, камісій і саветаў, якія накапляліся ў час пахаджэньне справаздачных

сходаў: сялянства, прафсаюзаў, беднаты, жанчын, актыву, камсамола і інш. Пры ўмелай увязцы конкурсу з справаздачнасьцю саветаў дасягаецца вельмі поўна, масавы ўдзел рабочых і сялян у конкурсе і адначасова забясьпечваецца найбольш сапраўднае атражэньне ў конкурсных матар'ялах усяе работы саветаў, сэкцый і камісій. Вось чаму павінны быць адкінуты ўсялякія меркаваньні аб пераносе конкурсу да больш свабоднага часу (да заканчэньня перавыбарчай кампаніі), а патрэбна найбольш шырока скарыстаць справаздачна-перавыбарчую кампанію, шчыльна ўвязаўшы работу абодвых кампаній на ўвесь час іх праходжаньня.

Аднэй з вялікіх перашкод, затрымаўшых разгортваньне конкурснай кампаніі, трэба лічыць—няпрыняцьце мер з боку як цэнтральных, так і акруговых газэт да папулярызацыі конкурсу праз друк з мэтаю прыцягненьня ўвагі працоўных мас, згуртаваньня ўсіх рабселькораўскіх сіл навакол справы практычнага ўдзелу іх у конкурсе. Дзякуючы гэтаму ўпушчэньню шырокія колы грамадзкасьці не маглі прыняць своечасова і належнага ўдзелу ў конкурснай рабоце.

У мэтах пасьпяховага ў далейшым правядзеньня конкурсу патрэбна акруговым камісіям наладзіць гэты практычны ўдзел у конкурсе ўсіх акруговых і насьценных газэт у форме зьмяшчэньня кіраўнічых аб конкурсу матар'ялаў: абежніку Цэнтральнае Конкурснае Камісіі, плянаінструкцыі, артыкулаў аб парадку і формах конкурснае работы на мясцох, а таксама і іншых конкурсных матар'ялаў з апісаньнем работы сэкцый, камісій саветаў.

Да гэтага часу надта слаба праяўлялася зацікаўленасьць конкурснае работы з боку грамадзкіх арганізацый (прафсаюзаў, камсамола, камітэту сялянскай ўзаемадапамогі, каапэрацыйных арганізацый, шэфскіх т-ваў). Аб гэтым гаворыць тое, што вышэйстаячыя органы гэтых грамадзкіх арганізацый не далі сваёй ніводнай канкрэтных указаньняў аб формах іх удзелу ў конкурсу і не наладзілі кіраўніцтва і практычнага інструктаваньня конкурснай работай.

Каб паправіць гэтае ўпушчэньне, грамадзкія арганізацыі павінны зьвязацца з конкурснымі камісіямі на мясцох, вызначыць канкрэтныя формы ўдзелу свайго ў конкурсе і безадкладна прыступіць да практычнае работы. Пры гэтым надта карысна, каб органы друку грамадзкіх арганізацый з свайго боку прынялі ўдзел у конкурсе, папулярызуючы пытаньне конкурсу сярод абслугоўваемых імі мас.

Арганізацыі, праводзячыя шэфства над саветамі, павінны практычна дапамагчы апошнім, арганізаваць конкурсную работу, вытварыць апісаньне работы падшэфных саветаў, іх камісій і матар'ялы накіраваць для зьмяшчэньня ў друку.

Усім таварышом як з цэнтру, так і з акругі і раёнаў, якім прыходзіцца ў гэты пэрыяд часу праводзіць работу па перавыбарах саветаў, патрэбна адначасова падштурхоўваць і дапамагаць мясцом у наладжаньні і разгортваньні работы па конкурсу.

**А. Лукашэвіч.**

# Лепш падрыхтаваць жанчын да перавыбараў.

Закончылася справаздачная кампанія сельскіх саветаў перад сваімі выбаршчыкамі і пачалася другая, самая важная частка кампаніі—выбары дэпутатаў у сельскія і местачковыя саветы і дача наказаў—праграмы будучай дзейнасьці—новаму складу дэпутатаў.

Прайшоўшая справаздачная кампанія саветаў дае шмат матар'ялаў як аб станоўчых, так і адмоўных момантах ходу кампаніі. Улічыць гэтыя матар'ялы, зрабіць правільныя вывады з іх і прыняць меры для выпраўленьня недахопаў, лепш мабілізаваць сілы працоўных для перавыбарнай кампаніі—вось што патрэбна рабіць зараз як партыйным, так і савецкім, прафсаюзным і грамадзкім арганізацыям зьнізу да верху.

Справаздачная кампанія саветаў дае матар'ял, які гаворыць за тое, што „рашучага пералому", як гаворыцца ў дырэктыве ЦК і ЦВК, у галіне большага залучэньня батрачак і сялянак у саветы на мясцох яшчэ не адчуваецца. Большасьць матар'ялаў з месц дае малюнак нездавальняючай увагі пытаньню залучэньня сялянак на справаздачныя сходы. У матар'ялах з Бабруйску мы чытаем: „з прысланых зьвестак па 5 раёнам відаць, што лік усіх удзельнікаў на справаздачных сходах складае 42,6 проц., а лік зьявіўшыхся жанчын складае 11,7 проц. агульнага ліку жанчын якія павінны былі ўдзельнічаць у справаздачных сходах" (Інфармацыя Бабруйскага АВК ад 20-XII-28 г.). А вось веды з Магілева, зусім не здавальняючыя: „нездавальняюча справаздачная кампанія прайшла па зарэччы—Шклоўскаму с-савету. Агульная яўка на сходы па гэтаму сельсавету вызначаецца ў 27 проц., а па асобных вучастках яўка жанчын была 3,5. Па Грабанеўскаму с-савету 32 проц.. а жанчын 4%".

Такія-ж веды аб недастатковай яўцы жанчын на справаздачныя сходы мы маем і па Гомельскай акрузе, па Аршанскай, па Полацкай Мазырскай і Менскай. У рэдкіх мясцох мы маем здавальняючую яўку жанчын на справаздачныя сходы. Чым тлумачыцца такі нізкі процант яўкі жанчын на справаздачныя сходы? Галоўным чынам тым, што ня было зьвернуте дастатковай увагі на падрыхтоўку жанчын да большага ўдзелу на справаздачных сходах.

Справаздачная кампанія наогул у асноўным недастаткова падрыхтавана на мясцох, а ў адносінах падрыхтоўкі жанчын--амаль што атсутнічае ўсякая падрыхтоўчая праца. З Бялыніцкага раёну Магілеўскае акругі пішуць: „На справаздачных сходах удзельнічала ўсяго 16,2 проц. усіх жанчын абіральніц, там, дзе сярод жанчын была праведзена пад-

рыхтоўчая работа, яўка была да 30 проц.".

Па цэламу шэрагу раёнаў ёсьць веды аб тым, што батрачкі і сялянкі амаль што не запрашаюцца. Сама тэхніка запрашэньня на сходы была вельмі спрошчана. У самы дзень сходу пойдуць „загадваць сход", пастукаюць у вокны „ідзеце, дзядзькі, на сход", а не які сход, зачым, ці трэба і сялянкам ісьці—аб гэтым не гаварылася.

Якая была актыўнасьць зьявіўшыхся на справаздачныя сходы сялянак? Па гэтым пытаньні ёсьць супярэчны матар'ял, але ўсё-ж у большай частцы адзначаецца, што сялянкі, якія зьявіліся ужо на сходы, прымалі актыўны удзел у абгаварэньні дзейнасьці саветаў. З Чырвонаслабадзкога раёну Бабруйскай акругі, з Жыткавіч Мазырскае акругі пішуць аб тым, што жанчыны актыўна выступалі і закраналі галоўным чынам пытаньні, зьвязаныя з зямляўпарадкаваньнем, палепшаньнем сельскае гаспадаркі, закранаді пытаньні культурнага будаўніцтве, пабудовы ясьляў, прычым больш актыўна сябе праявілі бяднячкі.

Такім чынам мы бачым, што зацікаўленасьць сялянак работай саветаў ёсьць, але ў той самы час справаздачная кампанія саветаў ня была ў дастатнай меры скарыстана для таго, каб зацікавіць сялянак работай саветаў, каб праз справаздачныя сходы падрыхтаваць працоўных жанчын да актыўнага ўдзелу ў выбарах новых органаў улады на мясцох, якія сапраўды былі-б выразьнікамі інтарэсаў беднаты і батрацтва і асноўнай масы сераднякоў на вёсцы.

Усе гэтыя даныя сыгналізуюць небясьпеку, сыгналізуюць аб тым, што неабходна зараз-жа падцягнуцца, мабілізаваць усе сілы, каб у перавыбарнуюкампанію падняць актыўнасьць жанчын—батрачак, калгасьніц, бяднячак і серадняччак, гэта значыць павялічыць іх яўку на сходы, падняць іх актыўнасьць пры абмеркаваньні наказаў і выбарах дэпутатаў.

Што для гэтага траба зрабіць? Трэба ў першую чаргу лепш скарыстаць для гэтай мэты жаночы актыў, абраных членаў саветаў, каапэрацыі, КСУ і г. д. Неабходна таксама ляпей скарыстаць дэлегацкія сходы на вёсцы. Ня трэба забывацца, што пры ўмелым скарыстаньні дэлегатак магчыма дасягнуць значных вынікаў у падняцьці актыўнасьці працоўных. Аб гэтым гаворыць нам вопыт мінулых перавыбараў. Там, дзе, як у Мазыры, дэлегаткі былі ўцягнуты ў актыўную работу па перавыбарах, мы мелі значна большую яўку жанчын на выбары.

У Мазыры, дзе дэлегаткі былі лепш скарыстаны, як і ўвесь жаночы актыў на вёсцы, мы мелі 36 проц. зьявіўшыхся сялянак, у той час, як у Магілеве і Воршы—19 проц.

Мы маем зараз на вёсцы больш 30.000 дэлегатак. Трэба добра скарыстаць гэтую арганізаваную масу сялянак у перавыбарах. Неабходна ў пэрыяд перавыбараў зрабіць так, каб дэлегацкія сходы абмеркавалі ўсе пытаньні, зьвязаныя з перавыбарамі, абмеркавалі наказ, удзельнічалі цалкам у сходах беднаты, запрашаліся-б цалкам на сходы бядняцка-серадняцкага актыву.

На дэлегацкім сходзе трэба абмеркаваць пытаньнн аб тым, як трэба арганізаваць перавыбары, каб сялянкі маглі ў большай колькасьці прыйсьці на перавыбары. Абмеркаваць час, калі ляпей назначыць сход, дзе пакінуць на гэты час малых дзяцей, прыцягнуць да абслугоўваньня малых дзяцей—школьнікаў, піянэраў, арганізаваць для гэтай мэты дзіцячы пакой і г. д. Дэлегаткі павінны абмеркаваць кандыдатуры членаў саветаў, намечаныя ячэйкай з тым, каб сваім актыўным падтрыманьнем дапамагчы выбару іх.

Дэлегаткі павінны асабліва ўсебакова абмеркаваць жаночыя кандыдатуры ў савет, каб дапамагчы ячэйцы адабраць самых лепшых, актыўных і аўтарытэтных батрачак, бяднячак і серадняччак у саветы. На гэтых сходах павінны ўдзельнічаць і старыя дэлегаткі і актывісткі-грамадчыцы.

Паміж дэлегаткамі новага і старога складу, паміж жаночага актыву трэба разьмеркаваць вучасткі, разьбіць хаты так, каб кожная дэлегатка, кожная актывістка адказвала за яўку на выбары вызначанага ліку сялянак, каб яна сачыла за тым, ці атрымалі гэтыя сялянкі позвы, і дабіцца таго, каб даручаныя яе ўвазе сялянкі абавязкова ўдзельнічалі на перавыбарах. Дэлегацкі сход павінен у пэрыяд перавыбараў зьбірацца часьцей, каб сачыць увесь час за актыўнасьцю дэлегатак, дапамагчы ім у рабоце, падштурхаваць і падцягваць адстаючых.

Асабліва важная роля выпадае ў гэтым на кіраўніка дэлегацкага сходу. Ён павінен перад ячэйкай поўнасьцю адказваць за работу дэлегацкага сходу ў пэрыяд перавыбараў. Не павінна быць, як гэта было ў час справаздачнай кампаніі, такіх выпадкаў, калі дэлегацкі сход застаецца зусім без кіраўніка, калі кіраўнік дэлегацкага сходу пасылаецца ў другое месца для правядзеньня перавыбараў.

Трэба памятаць, што цяжкасьці па больш актыўным залучэньні жанчын у перавыбары саветаў вельмі вялікія, што трэба перамагчы як векавую адсталасьць працоўных жанчын, так і коснасьць мужчын у пытаньні залучэньня ў актыўную працу жанчын, што жаночая частка працоўных складае палову выбаршчыкаў і што ад іх пасыўнасьці зьніжаецца і агульны процант удзельнікаў у перавыбарах.

Работа цяжкая, але ўдзячная, і загэтым на справу залучаньня жанчын у перавыбары павінна быць кінута максымум сіл і ўвагі ўсёй пролетарскае грамадзкасьці.

*С. Крэмер.*

**Больш увагі перавыбарам саветаў! Работніца, батрачка, сялянка, ідзі на выбары саветаў, працуй у савеце, будуй новае жыцьцё.**

# Новае палажэньне аб гарадзкіх саветах

22 сьнежня 1928 г. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР зацьвердзіў новае палажэньне аб гарадзкіх саветах, скасаваўшы пры гэтым палажэньне аб гарсаветах 1926 году.

Выданьне новага палажэньня было вылікана шэрагам законаў, з якімі трэба было ўзгадніць палажэньне 1926 г., якое ў свой час было распрацавана вельмі добра, і гэтым тлумачыцца тое, што яно цалкам было пакладзена ў аснову новага палажэньня.

Пры распрацоўцы новага палажэньня былі ўлічаны наступныя законы СССР і БССР.

а) Канстытуцыя БССР;

б) „Асноўныя палажэньні пра арганізацыю ў СССР гарадзкіх саветаў“, зацьверджаныя Прэзыдыумам ЦВК Саюзу ССР 8-га лютага 1928 г.;

в) пастанова ЦВК і СНК БССР ад 22 сьнежня 1927 г., зацьверджаная ЦВК БССР на ІІ-й Сэсіі VIII скліканьня“ пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пра пашырэньне праў мясцовае улады“;

г) пастанова Прэзыдыуму ЦВК БССР ад 30 сьнежня 1927 году „пра адкліканьне выбаршчыкамі з саветаў выбраных імі дэпутатаў;

д) цыркуляр Прэзыдыуму ЦВК БССР ад 17 мая 1928 г. усім акрвыканкомам і гарсаветам „аб мерах для ўсіленьня і палепшаньня дзейнасьці гарадзкіх саветаў“;

е) палажэньне аб мясцовых фінансах БССР, зацьверджанае ЦВК БССР 23 верасьня 1928 г. на III Сэсіі VIII скліканьня.

У новым палажэньні улічана таксама і практыка месц, якім быў пасланы на заключэньне праэкт новага палажэньня.

Новым у зацьверджаным 22-га сьнежня 1928 г. палажэньні аб гарадзкіх саветах у параўнаньні з палажэньнем 1926 г. зьяўляецца наступнае:

Уводзіцца інстытут раённых саветаў, якія могуць арганізоўвацца ў гарадох з насяленьнем звыш 100.000 чалавек. У гарадох з насяленьнем менш 100.000 чалавек раённыя саветы могуць таксама арганізоўвацца, але з дазволу у кожным асобным выпадку Прэзыдыуму ЦВК БССР. Выбары ў раённыя саветы праводзяцца самастойна ад выбараў у агульнагарадзкі савет. Выбаршчыкі розных слаёў працоўнага насяленьня бяруць удзел у выбарах дэпутатаў у гарадзкія саветы па аднолькавай для ўсіх працоўных норме.

У адпаведнасьці з арт. 65 Канстытуцыі БССР устаноўлен мінімум і максымум членаў гарадзкога савету—50 і 500 чалавек. Нормы прадстаўнідтва ў гарадзкія саветы, якія былі ўстаноўлены ў 1927 годзе і якія крыху зьменены 29 сьнежня 1928 г., забясьпечвалі таксама паказаны мінімум і максымум, і толькі Гомельскі гарсавет апошняга складу быў выбран у колькасьці 523 дэпутатаў.

Устаноўлена. што гарадзкія саветы выбіраюцца на тэрміны, якія існуюць для перавыбараў адпаведных акруговых або раённых выканаўчых камітэтаў. У мэтах ажыцьцяўленьня выбаршчыкамі сапраўднага кантролю над дзейнасьцю выбіраемых імі ў гарсавет дэпутатаў, прадстаўлена права выбаршчыкам ва ўсякі час адклікаць сваіх дэпутатаў з савету. У палажэньні дан прыкладны пералік прычын, па якіх можна адклікаць дэпутатаў з савету.

Вызначаны падпарадкаванасьць і ўзаемаадносіны паміж гарадзкімі саветамі і адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі. Гарадзкія саветы ў акруговых гарадох падпарадкоўваюцца акруговым выканаўчым камітэтам і ў раённых гарадох — раённым выканаўчым камітэтам. Акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты аб сваёй дзейнасьці робяць справаздачы адпаведным акруговым і раённым гарадзкім саветам на іх пленумах.

Устаноўлен парадак абскарджаньня гарадзкімі саветамі пастаноў адпаведных выканаўчых камітэтаў у вышэйшы выканаўчы камітэт, прычым абскарджаньне не прыпыняе дзейнасьці пастановы выканаўчага камітэту.

Першы пленум гарадзкога савету выбірае са свайго складу прэзыдыум гарсавету і ў яго складзе старшыню гарадзкога савету, яго намесьніка і сакратара. Па палажэньні аб гарсаветах 1926 г., намесьніка старшыні і сакратара гарадзкога савету выбіраў ня пленум, а прэзыдыум гарсавету. Прэзыдыум гарсавету ў акруговых гарадох выбіраецца ў ліку ня болей 15 і ў неакруговых гарадох ня болей 9 членаў (замест 11 і 7 членаў па палажэньню 1926 года, у якім толькі для Менскага гарсавету існавала норма для прэзыдыуму у 15 член.). Пасяджэньні Прэзыдыуму лічацца сапраўднымі, калі на іх прысутнічае ня менш паловы яго членаў і гэты лік членаў застаецца абавязковым на ўвесь час пасяджэньня. Гэтае правіла паміж іншым, дапаможа падняць актыўнасьць наведваньня прэзыдыуму яго членамі і зробіць пастановы яго больш аўтарытэтнымі.

Гарадзкія саветы сваіх аддзелаў не ўтвараюць і толькі па пастанове пленуму гарсавету могуць быць утвораны адны камунальныя аддзелы. Работа у асобных галінах кіраваньня выконваецца пад кіраўніцтвам і па заданьнях прэзыдыуму гарсавету апаратам адпаведнага акруговага або раённага выканаўчага камітэту, у складзе якіх павінны быць выдзелены адпаведныя часткі Гарадзкія саветы акруговых гарадоў работу ў галіне асьветы і аховы здароў выконваюць праз адпаведныя гарадзкія інспэктуры, непасрэдна падпарадкаваныя гарадзкім саветам. Пад загадам гарадзкіх саветаў пры адзіным акруговым альбо раённым кіраўніцтве знаходзяцца міліцыя і крымінальны вышук.

Гарадзкім саветам даецца права для беспасрэднага абслугоўваньня пленумаў, прэзыдыумаў і сэкцый мець свой тэхнічны апарат, у той час як у палажэньні 1926 г. тэхнічнае абслугоўваньне прэзыдыумаў гарсаветаў было ўскладзена на адпаведныя выканаўчыя камітэты, якія выдзялялі з гэтай мэтай патрэбны лік тэхнічных работнікаў.

Каштарысы на ўтрыманьне падпарадкаваных гарадзкому савету ўстаноў і прадпрыемстваў, а таксама апарату, які абслугоўвае гарадзкі савет і знаходзіцца ў складзе адпаведных аддзелаў выканаўчых камітэтаў, праходзяць па гарадзкому бюджэту.

Правы і абавязкі гарадзкіх саветаў у галіне арганізацыйна-адміністрацыйнай дапоўнены наступным: гарадзкія саветы назначаюць і звальняюць кіраўнікоў устаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на гарадзкім бюджэце альбо непасрэдна падпарадкаваны гарсавету; ужываюць дысцыплінарныя пакараньні да членаў гарадзкіх саветаў і падпарадкаваных ім прадпрыемстваў і ўстаноў; кантралююць непадпарадкаваныя ім установы і прадпрыемствы, якія знаходзяцца на тэрыторыю гораду, без права умешваньня у іх апэрацыйную дзейнасьць; робяць пэрыядычныя, ня менш аднаго разу у шэсьць месяцаў, справаздачы выбаршчыкам аб дзейнасьці савету. У адпаведнасьці з гэтым і паасобныя члены саветаў робяць справаздачы выбаршчыкам, таксама у шэсьць месяцаў адзін раз, а ня у тры месяцы, як гэта было раней.

Парадак разгляду бюджэту гарадзкога савету ўдасканалены і ўстаноўлены наступны: адпаведныя акруговыя альбо раённыя выканаўчыя камітэты разглядаюць зацьверджаныя пленумамі гарадзкіх саветаў гарадзкія бюджэты, і, у выпадках патрэбы зрабіць якія-небудзь зьмены у гарадзкім бюджэце, ажыцьцяўляюць гэтыя зьмены праз пленумы гарадзкіх саветаў.

На гарадзкія саветы ў галіне ваеннай ускладзены абавязкі дапамагаць правядзеньню прызыўнае кампаніі і мерапрыемствам па ваенізацыі насельніцтва

Больш ясна вызначана роля пленуму гарадзкога савету шляхам зьмешчаньня спэцыяльнага артыкулу, які гаворыць, што „Кіруючым органам гарадзкога савету зьяўляецца яго пленум. Пленум гарадзкога савету разглядае і вырашае ўсе асноўныя пытаньні гарадзкое гаспадаркі і кіраўніцтва“.

Кандыдаты ў члены гарсавету на пасяджэньнях пленумаў карыстаюцца дарадчым голасам, а ў выпадку адсутнасьці некаторых членаў гарсавету—пастаноўчым голасам, у парадку рэгістрацыі яўкі кандыдатаў на данае пасяджэньне, аб чым абвяшчаецца старшынёй пасяджэньня пры адчыненьні апошняга.

Устаноўлена, што гарадзкія саветы выдаюць абавязковыя пастановы і накладаюць за іх парушэньне пакараньні. Такі парадак быў і ў Палажэньні 1926 г. адносна усіх гарадоў, але ён быў скасаваны 17 мая 1928 г., калі была прынята ЦВК і СНК БССР новая пастанова „пра парадак выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў за іх парушэньне“. Гэтая пастанова дала гарадзкім саветам акруговых гарадоў права толькі выдаваць абавязковыя пастановы, а накладаньне пакараньняў за іх парушэньне рабілася не гарсаветамі, а начальнікам адміністрацыйнага аддзелу Акрвыканкому. Пасьля прыняцьця новага палажэньня аб гарсаветах неабходна будзе ўнесьці адпаведныя зьмены ў паказаны закон ад 17 мая 1928 г. аб абавязковых пастановах.

Для ўсіх гарсаветаў устаноўлена абавязковай арганізацыя сэкцыі рабоча-сялянскай інспэкцыі. Устаноўлена, што члены гарадзкога савету, якія ня жывуць на службовы заробак (саматужнікі, якія не аб'яднаны ў арцелі, і іншыя кааперацыйныя аб'яднаньні, хлебаробы, хатнія гаспадыні і інш.), якія выконваюць абавязкі па даручэньні гарсавету ў рабочы час, аплачваюцца гарадзкімі саветамі ў разьмеры сярэдняга заробку рабочага данае мясцовасьці.

У новым палажэньні няма парадку перасоўваньня крэдытаў па гарадзкому бюджэту, як гэта было ў палажэньні 1926 г., таму што такі парадак дакладна вызначан у Палажэньні аб мясцовых фінансах. На гарадзкія саветы ускладзены абавязак кіраваць дзейнасьцю гарадзкіх таварыстваў узаемадапамогі і дапамогі. Гарсаветы абавязаны аб сваіх пленумах (час, месца) публікаваць да агульнага ведама не за тры дні, як гэта было ў Палажэньні 1926 г., а за сем дзён.

Вось гэта ўсё галоўнае, што ў параўнаньні з Палажэньнем аб гарсаветах 1926 г. зьяўляецца новым у Палажэньні аб гарадзкіх саветах, зацьверджаным 22-га сьнежня 1928 г. Апроч гэтага, маецца ў новым Палажэньні шмат дробных зьмен у параўнаньні з старым Палажэньнем аб гарсаветах.

Новае Палажэньне прапрацоўвалася пад лёзунгам далейшага пашырэньня праў гарадзкіх саветаў, утварэньня умоў, дзякуючы якім узмацніцца і пашырыцца масавая дзейнасьць гарсаветаў.

*А. Пятосін.*

## Больш масавай і каапэрацыйнай працы на вёсцы.

Кастрычнік зьнішчыў панаваньне буржуазіі ў нашай краіне, абвясьціў барацьбу супроць розьні паміж працоўных усіх народаў, супроць някультурнасьці, бюрократызму і ўсялякай цеганіны, паставіў перад намі мэту — праз каапэрацыю і калектывізацыю перабудаваць жыцьцё на сацыялістычны лад; штурхнуў працоўныя масы к новаму культурнаму будаўніцтву, к новаму культурнаму жыцьцю; паставіў перад нашымі савецкімі, грамадзкімі і прафэсыянальнымі арганізацыямі задачу паглыбляць і разгортваць шырэй масавую працу, падняць самыя глыбокія пласты працоўных да культурнай рэвалюцыі, абвясьціў барацьбу супроць беднасьці. Барацьба за сацыялістычную перабудову жыцьця на вёсцы—гэта вялікая задача нашай савецкай дзяржавы і грамадзкасьці, з якой яны павінны справіцца. У нашай працы першае месца павінна належаць выхаваўчай працы сярод бядняцка-серадняцкіх пластоў. Патрэбна пашырыць веды сярод сялянства аб нашым сацыялістычным будаўніцтве, аб тым, якім мэтадам, якім шляхам мы павінны ісьці к палепшаньню дабрабыту селяніна. Там, дзе няма пісьменнага чалавека, няма культуры, там думаюць, што справа скончана, калі падзялілі зямлю; але жыцьцё патрабуе больш: трэба вучыцца, каб навучыцца ўзяць ад прыроды ўсё, што карысна для чалавецтва, каб прымусіць нашу глебу даць тое, што патрэбна для культурна-эканамічнага разьвіцьця нашае краіны. У сучасны момант назіраецца шмат выпадкаў, калі селянін пакідае вёску, гаспадарку і ідзе ў горад, думаючы, што гэтым палепшыць сваё становішча, а ў горадзе атрымаць работу надзвычайна цяжка таму, што горад таксама расьце па колькасьці, і нашая прамысловасьць ня можа яшчэ ўмясьціць усю не-

занятую рабочую сілу. Таму неабходна нашаму сялянству імкнуцца, каб тая рабочая сіла, якая маецца ў весцы, знайшла сабе працу на месцы, каб будаваць фабрыкі па выпрацоўцы хлеба сыравіны. Гэтымі фабрыкамі зьявяцца калектывы, якія дадуць магчымасьць павысіць выраб колькасна і якасна, і займуць вольную рабочую сілу. Для гэтага неабходна перш ўсяго скласьці такое ядро на вёсцы, якое само павінна быць зацікаўлена ў палепшаньні становішча. Такім ядром у першую чаргу павінен быць сельсавет. Неабходна таму, каб пры выбарах увесь вясковы актыў, які ведае сацыялістычным бадаўніцтвам, ўвайшоў у сельсаветы і прыняўся за актыўную працу. Калі паглядзець на працу некаторых сельсаветаў, то відаць, што яны самі не ўцямілі тых задач, якія ставіць рабоча-сялянскі ўрад, якія паставіла Камуністычная Партыя. Там маецца шэраг зьявішч, калі пытаньні не вырашаюцца ў карысьць бедняка, а ў карысьць заможнага. Гэтым парушаецца клясавы прынцып. Сельсаветы не разгарнулі працы камісій, якія існуюць толькі на паперы, ня вызначылі перад камісіямі іх мэты і задачы, ня далі ім працы, і некаторыя камісіі ня ведалі, што ім рабіць, якія іх абавязкі, не гаворачы ўжо аб тым, што сельсаветы павінны згуртаваць ўвесь вясковы актыў, якому павінны даць напрамак і якім павінны кіраваць.

Мала яшчэ адчуваецца кіруючая роля савету; ён больш выконвае загады зьверху ды займаецца пісанінай розных пасьведчаньняў,—гэтая праца адбірае шмат часу. Сельсавет ад ўсялякіх пісанін і адміністраваньня па магчымасьці трэба разгрузіць, а пераложыць частку працы на камісіі, напрыклад, абсьледваць маемасьць альбо высьвятленьне спрэчнае справы, з тым, каб камісіі зрабіліся падрыхтоўчымі органамі савету. Сельсавет павінен мець плян сваёй працы, пляны камісій і плян будаўніцтва на вёсцы, ён павінен даваць заданьні камісіям, ўцягваць іх у працу, заслухоўваць даклады. Сельсавет павінен прымаць неведвальнікаў, даваць правільныя тлумачэньні, гаварыць селяніну і ня ўтойваць ад яго, як будзе вырашацца справа. Трэба, каб не дапускалася цеганіна, паменшыць папяровую пісаніну, трэба больш увагі да прыёму сялян, да вырашэньня спраў; каб ня трэба было справу, якая можа быць вырашана на месцы, праглядаць ва ўсіх органах, пачынаючы ад с-савету і канчаючы ЦВК. Пры такім становішчы, па-першае, траціцца аўтарытэт мясцовых органаў ўлады, па-другое—цэнтральныя органы загружаюцца шэрагам дробных спраў і адцягваецца іх ўвага ад спраў, якія сапраўды патрабуюць разгляду вышэйшымі органамі.

## Масавая праца ў каапэрацыі.

Другім важнейшым асяродкам масавай работы на вёсцы павінна быць каапэрацыя.

Уладзімір Ільліч ЛЕНІН казаў, што праз каапэрацыю мы прыдзем да сацыялізму. Вядома, што рост каапэрацыі асабліва сельска-гаспадарчай, які дасягнуў ахопу 45,7% агульнага ліку сялянскіх гаспадарак, малы. Праўда, супроць мінулага году ён павысіўся на 10,8%, але гэта таму, што мы па лініі сельска-гаспадарчай каапэрацыі зусім мала зрабілі, мы ня выканалі заветаў У. І. ЛЕНІНА. Гэтай працай некаторыя сельсаветы зусім ня цікавіліся, і лічаць, што гэтую працу павінен праводзіць каапэратыў і інструктары. Але хто-ж павінен быць застрэльшчыкам каапэрацыйнага будаўніцтва ў тым сельсавеце, дзе няманіводнага каапэратыву? А дзе няма каапэратыву, то там звычайна слаба і праца с.-саветаў, там неабходна перад с.-саветам ставіць задачу ахапленьня ўсяго насельніцтва рознымі відамі каапэрацыі, улічваючы мясцовую эканоміку—крыніцы сыравіны, імкненьні і жаданьні насельніцтва, каб скарыстаць ініцыятыву сялян і накіроўваць яе ў сацыялістычным напрамку. Праз каапэраваньне насельніцтва цалкам на 100% мы падвядзем эканамічны грунт пад с.-савет, магчыма будзе сапраўднае кіраваньне з боку савету эканамічным жыцьцём вёскі і ўздымецца ініцыятыва сялянства. Але-ж для гэтага патрэбна даказаць селяніну карыснасьць каапэрацыі, даказаць, што каапэрацыя таксама радзілася ў вогнішчы Кастрычніка, яна зьяўляецца яго дзецішчам, якое мы павінны шанаваць, выхоўваць, замацоўваць уступленьнем новых членаў, назіраць за ёй усёй грамадою, даючы правільны напрамак у працы і своечасовую дапамогу. Сельсавет павінен клапаціцца аб пашырэньні і поўным скарыстаньні фонду каапэраваньня беднаты. За працу каапэратыву судзяць ня толькі Праўленьне, пайшчыкаў—судзяць савет і ўсю нашую грамадзкасьць. Пры выбарах у саветы павінен быць уцягнуты ў члены савету бядняцка-серадняцкі актыў каапэратываў.

Сельсаветы павінны дабіцца працаздольнасьці каапэратыву, працаздольнасьці каапэратараў. А гэта будзе толькі тады, калі ўсё сялянства будзе прымаць ўдзел у працы каапэрацыі, калі вясковы актыў будзе ўцягнут і скарыстаны цалкам у гэтай працы, калі кожная жанчына прыме ў ёй удзел. Патрэбна таксама адзначыць, што ёсьць часта недахопы ў пастаноўцы інструктарскіх абглядаў; ёсьць абгляд павярхоўны, інструктаваньня мала, няма ў некаторых інструктароўрэвізораў зацікаўленасьці ў жыцьці каапэрацыі, фармальныя адносіны да справы. І таму, пасьля шпаркага росту спачатку потым каапэратыў пачынае хірэць і ўміраць. Сьмерць каапэратыву падрывае ня толькі аўтарытэт каапэратыву і каапэратараў, але і самую ідэю каапэраваньня. Таму патрэбна скарыстаць ўвесь вопыт каапэрацыйнай працы, які мы маем за 11 год рэвалюцыі, вывучаць, дзе і якая павінна быць каапэрацыя і як яна павінна будавацца, каб ня было зрываў у гэтай рабоце.

Сельсавет і каапэратыў павінны памятаць, што ўся праца на вёсцы ёсьць праца змаганьня за лепшае будучае, за сацыялізм, і пагэтаму павінна праходзіць сыстэматычна і штодзённа, што ў яе трэба ўцягнуць усю працоўную масу, і толькі тады мы лёгка справімся і выканаем задачы, якія ўзлажыў на нас і якія даў магчымасьць пасьпяхова вырашыць Кастрычнік.

**І. Масальскі.**

# ПА АКРУГАХ І РАЁНАХ.

## Клімавіцкі раён, Магілеўскае акругі.

### (Дасягненьні за 10 год).

Клімавіцкі раён пасьля апошняга ўзбуйненьня ў 1927 г. павялічыўся за рахунак Мілаславіцкага раёну, і цяпер мае 22 сельсаветы і 1 гарсавет, займае плошчу ў 1528 кв. клм. з насельніцтвам у 70.088 чалавек пры шчыльнасьці ў 46 чал. на кв. клм. У дарэвалюцыйны час мясцовасьць, займаемая цяпер раёнам, лічылася бяднейшай часткай Магілеўскаи губ. Толькі дзякуючы напружанай працы савецкіх гаспадарчых устаноў раёну і актыўнаму ўдзелу ў гэтым працоўных Клімаўшчыны пад непасрэдным кіраўніцтвам Камуністычнае партыі раён значна ўзмацніўся і мае вялізарныя дасягненьні ва ўсім гаспадарча-культурным жыцьці.

### Сельская гаспадарка.

У 1918 г. пасяўная плошча раёну складала 42.963,44 гкт. і к 1928 г. павялічылася да 46.551,36 гкт., альбо на 8,3%. Гэтае павялічэньне адбылося, галоўным чынам, за лік пераводу ў агульны пасеў кінутых земель, меліараванай плошчы, скарачэньня паравога кліну і інш. За апошнія гады маецца павялічэньне засеваў кармавых траў, карняплодаў і тэхн. культур, што сьведчыць пра станоўчы працэс далейшай рацыяналізацыі палявой гаспадаркі раёну. Побач з гэтым заўважваецца зьмяншэньне зернавых культур супроць мінулага году на 2,1%, але ж гэтае трэба лічыць нармальным зьявішчам, бо зернавыя культуры паступова выцясьняюцца больш інтэнсыўнымі культурамі.

Другую асноўнаю галінаю сельскае гаспадаркі раёну зьяўляецца жывёлагадоўля, павялічэньне якое ў параўнаньні з 1917 г. выражаецца: буйная рагатая жывёла павялічылася на 38%. Ня глядзячы на колькасны ўзрост рагатае жывёлы наогул, дойных кароў супроць 1927 г. зьменшылася на 4,8%, што тлумачыцца імкненьнем палепшыць жывёлу якасна замест яе колькаснага павялічэньня. Рабочых коняй (старэй 4-х год) павялічылася на 13,6% і сьвіней на 85%.

Побач з агульным уздымам сельскае гаспадаркі раёну паменшыўся лік бясконных і бескароўных гаспадарак: першых—з 9,2% да 5,8% і другіх—з 5% да 2,7%.

Эканамічная дапамога беднаце праз ільготнае крэдытаваньне, палёгкі па с.-г. падатку, ільготную і дарэмную выдачу лесаматар'ялаў, зямляўпарадкаваньне і інш. спрыяла ўзмацненьню становішча бядняцкіх гаспадарак і зьмяншэньню іх ліку (беспасеўных гаспадарак зараз у раёне толькі 0,3%).

### Агранамічная і вэтэрынарная дапамога насяленьню.

Аб агранамічнай дапамозе сялянства да 1918 г. амаль ня ведала. Зараз у раёне маецца 7 аграномаў (у 1923 г. было 3), якія пашыраюць сельска-гаспадарчыя веды сярод насяленьня. Побач з ростам ліку агрпрацаўнікоў павялічылася і апорная сетка на 76,7% і лік с.-г. машын і прылад. Толькі за адзін 1927-28 г. набыта для зернаачысных і пракатных пунктаў 5 трыераў, 4 льнатрашчоткі, 1 зьмейка, 2 канюшын. цёркі, 3 сеялкі, 5 конных і ручных апырскваццеляў, на што патрачана 2250 руб.

Узмацнілася і якасна палепшылася аграпрапаганда: праведзены 2-х і 3-х тыднёвыя курсы, а таксама выстаўкі, лекцыі, кансультацыі і г. д. На працягу 10-ці г. праведзена ў розных мясцох р-ну с.-г. курсаў 23, выставак 8. Зацікаўленасьць насяленьня ў сельскай гаспадарцы раёну—вялікая, аб чым сьведчыць надзвычайна вялікі лік слухачоў на курсах і прысутнічаючых на выстаўках да 10.000 асоб. На набыцьцё с.-г. машын і прыладаў за папярэднія два гады адпушчана 8.387 руб. За гэты ж час распаўсюджана 23.006 пуд. мінэральнага ўгнаеньня, у тым ліку выдана ў крэдыт на суму 5.808 р., тады як крэдыт на гэту патрэбу ў 1917 г. зусім не адпускаўся. Добра ўжываецца і паступова павялічваецца сярод насяленьня і зернячыстка: у 1917 г. было ачышчана рознага насеньня 7.540 пуд., а ў 1928 г.—54.600 пуд. (павяліч. на 610%). Плошча, пераведзеная на шматпалёвы севазварот, у параўнаньні з 1925 г. павялічылася з 588,60 гкт. да 7.670,33 гкт., альбо на 1204%.

Біч сялянскае жывёлы—сап, кароста, чума і інш. хваробы, лютаваўшыя ў годы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, цалкам зьнішчаны, дзякуючы пабудове 2-х вэтэрынарных лячэбніц у раёне з стацыянарным аддзяленьнем. Вэтэрынарная дапамога наладжана добра, і за ёю зьвяртаецца насяленьне ня толькі Клімавіцкага, а і прымежных раёнаў, нават—насяленьне Смаленшчыны.

### Зямляўпарадкаваньне.

Праца па зямляўпарадкаваньні ў раёне пачалася толькі ў 1922 г. і паступова, плянава, гаспадарча парадкуецца (разьбіўка на шырокія палосы, сядзібы і пасёлкі).

За апошнія гады маецца значнае павялічэньне пасёлкаў. На сучасны момант раён зямляўпарадкаван на 50%, з якіх 7,36% з дарэвалюцыйнага часу. Для канчатковага зямляўпарадкаваньня ўсіх гаспадарак раёну патрабуецца яшчэ 7 гадоў.

Зямляўпарадкаваньне ў раёне мае пераважна пасялковы характар—90%, на хутары ж прыпадае ўсяго 10%.

З прычыны недахопу ральлі з боку насяленьня з кожным годам расьце імкненьне к перасяленьню. На сучасны момант перасялілася за межы раёну 1.216 чал. (223 гаспадаркі). Пачынаючы з 1925 г. сярод безьзямельных і малазямельных сялянскіх двароў разьмяркована зямлі: абшарніцкай—4.487,53 гкт., царкоўнай — 450,17 гкт. і інш — 1.123,13 гкт.

### Калектывізацыя.

У раёне маецца 2 савецкія гаспадаркі — Ціманава і Высокае, якія карыстаюцца 737,64 гкт. розных угодзьдзяў. Савецкімі гаспадаркамі бярэцца ўхіл на вытворчасьць зернявых культур, але зварочваецца ўвага і на іншыя галіны, як жывёлагадоўля. Са-

вецкімі гаспадаркамі толькі за 1927-28 год прадана і абменена сялянству сартовага насеньня 3.074 п. і ачышчана 960 пуд.

Калектывізацыя гаспадарак у раёне фактычна пачалася з паловы 1924 г. і зараз паступова пашыраецца і замацоўваецца, асабліва ў апошнія гады. Лік калектыўных гаспадарак у гэтым годзе вырас з 19 да 24, альбо на 26,3% (маецца 1 камуна, 14 арцеляй і 9 с.-г. т-ваў); лік іншых калектыўных аб'яднаньняў (машын. т-вы, насеннаводныя, малочныя, птушкаводныя і інш.) вырас з 31 да 52, альбо на 70%.

З дасягненьняў калектыўных гаспадарак трэба лічыць: пасеў конюшыны—13,5%, карняплодаў і бульбы—14,5% агульнай плошчы, узрост ураджайнасьці—у сярэднім на 14,6% і засеў сартовага жыта—104 гкт.

## Мэліарацыя.

У дарэвалюцыйны час ніякіх мэліярацыйных работ на тэрыторыі раёну не праводзілася. На абшарах раёну ў 1917 г. мелася каля 10.000 гкт. забалочанай зямлі, якую пры мэліараваньні магчыма пусьціць ў с.-гаспадарчы абарот. Пачаўшыміся меліарацыйнымі работамі ў 1925 г. па сучасны момант асушана 2.025 гкт. і падгатавана да асушкі 1.699 гкт. На гэтай плошчы арганізавана 27 мэліарацыйных т-ваў з 1.280 членамі ў іх. На мэліарацыю, улічваючы дзяржаўныя сродкі, сродкі насяленьня і жывую сілу, усяго патрачана каля 168.272 руб.

Вялікая праца праароблена па рэгуляваньні рэк Іпуці і Пераваланчнянкі, у выніку чаго пракопан канал на працягу 20 клм. да меж Смаленшчыны, дзе ўжо ў сваю чаргу праводзяцца гідратэхнічныя дасьледваньні для далейшае яго пракопкі.

## Лясная гаспадарка.

Усяго лясоў па раёне лічыцца 30.892,92 гкт.; з гэтага ліку лясоў мясцовага значэньня — 11.438,92 гкт.; апрача гэтага, пры гор. Клімавічах маецца гарадзкая плошча ў 218 гкт. Даходнасьць ад лясной гаспадаркі з кожным годам павялічваецца, і ў 1928 г. дасягнула 83.749 руб.

З 1918 г. праведзена лесааднаўленьне праз пасеў і пасадку дрэў на плошчы 408,08 гкт. Пабочнае карыстаньне ў лясох выражаецца ў бясплатным папасе жывёлы насельніцтва. За апошні час значна ўзмацнілася ахова лесу, шляхам падбору лясной варты і інш., палепшыўся догляд за лесам і паступова зьмяншаюцца лесазлачынствы.

## Прамысловасьць.

Прамысловасьць, якая існавала ў раёне ў даваенны час і падтрымлівала буйна-ўласьніцкія (абшарніцкія) гаспадаркі, у час грамадзянскай вайны была амаль зусім разбурана.

Зараз з адноўленых у раёне прадпрыемств маюцца: 3 бровары Белдзяржсьпірту, рэктыфікацыйны завод Цэнтрасьпірту і пабудованыя прадпрыёмствы Клімавіцкага раённага камбінату:—электрастанцыя, лесапільны завод, млын, жывёлабойня і смолаcкіпідарны завод (пры райкомбінаце вядуцца і торпараспрацоўкі). У 1928 г. дабудоўваецца артэзіанскі калодзец, на які патрачана каля 15.000 руб.

Усе прадпрыёмствы раёну абсталёваны, працуюць і на іх занята 103 рабочых і 14 служачых; сярэдняя зарплата рабочых 59 руб. у м-ц.

У 1928 г. скончана пабудова (па апошнім слове тэхнікі) сілікатнага заводу акругова значэньня; кошт заводу з чыгуначнай пад'яздною веткаю—276.000р.; на заводзе занята 19 рабочых і служачых.

Выпрацоўваемая заводам цэгла,—у сярэднім 13.500 штук у дзень,—вельмі добрай якасьці і танная —3,3 кап. З вясны 1929 г. мяркуецца перавесьці завод на 7-мігадзінны працоўны дзень і дзьве зьмены.

## Камунальная гаспадарка.

Апошнія гады характарызуюцца буйным капітальным будаўніцтвам і рамонтамі як па камунальным, гэтак і па шляхавым будаўніцтву: па раёне праведзена будаўнічых работ і рамонту на 13.844 руб. (апрача школьнага будаўніцтва, аб чым будзе ніжэй) і па гораду Клімавічах у час існаваньня там акруговага цэнтру—на 65.050 руб.

Рамонт шляхоў мясцовага значэньня робіцца сіламі насяленьня на сродкі самаабкладаньня з дапамогаю дзяржавы праз дармовую выдачу лесу і тэхнічн. нагляд. Толькі ў 1927-28 г. патрачана са сродкаў самаабкладаньня на шляхавае будаўніцтва 8.760 руб.

Усяго з 1924 г. пабудована мастоў 751 паг. мэтр і шмат капітальна адрамантавана. З асыгнаваных сродкаў па бюджэце раёну для шляхавага будаўніцтва на 1927-28 г. у суме 2.800 руб. пабудаваны масты ў в. в. Гнедах, Сьвірэль і закончаны ў Судзілах, а па гор. Клімавічах за асыгнаваньні на рамонт адрамантавана 10 камун. будынкаў на 8.000 руб. і пракладзена водасточная труба праз рынак, што каштавала 2.500 руб.

Да 1917 г. пажарных дружын ў раёне ня было, апрача аднэй пажарнай каманды ў г. Клімавічах. Зараз-жа ў раёне маецца 30 пажарных дружын (4 дружыны арганізаваны ў 1928 г.). Ва ўсіх пажарных дружынах раёну маецца 31 пажарная дружына.

Зараз у раёне маецца чарапічна-бэтонная майстэрня. На майстэрні за час яе існаваньня выраблена—82.350 штук чарапіцы і 924 бэтон. калец. У 1928 г. выдана насельніцтву 649 руб. доўгатэрміновай пазыкі на пабудову агнятрывалых будынкаў. У раёне маецца 21 будынак з чарапічнымі дахамі.

## Каапэрацыя.

У с.-гаспадарчай крэдытнай капэрацыі ёсьць значныя дасягненьні: у 1918 г. у раёне былі 2 с.-г. крэдыт. т-вы, а зараз маецца 4 (два адчынены ў 1928 г.), якія яднаюць 5.666 пайшчыкаў, што дае 43,7 проц. каапэраваньня к агульнаму ліку гаспадарак. Значна ўзрос іх паявы капітал і павялічыліся ўкладныя апэрацыі. Рост крэдытнай каапэрацыі больш шпарка ідзе па галіне закупна-прадажнай. За апошнія 5 год сяляне Клімаўшчыны атрымалі каля 316.813 р. крэдыту. Пераважна крэдытуецца беднага.

Разам з узмацненьнем с-гаспад. крэдытнай каапэрацыі расьцеі пашыраецца дзейнасьць спажывецкай каапэрацыі. Нізавых каапэратываў у 1917 г. (местачковых і вясковых) было 4, а зараз 8, якія яднаюць 7810 пайшчыкаў, што дае 52,4 проц. каапэраваньня гаспадарак раёну. З павялічэньнем к. а эрацыйнай сеткі і ростам ліку пайшчыкаў павялічыўся зварот, уласныя сродкі і паступова зьніжаюцца накладныя выдаткі. У 1928 г. Клімавіцкім гарадзкім спажывецкім

т-вам пабудована паўмэханізаваная хлебапякарня коштам у 10.000 руб.

## Асьвета.

Доля народнай асьветы ў бюджэце раёну з кожным годам расьце. Калі ўзяць к прыкладу 1924-25 г., то на справу народнай асьветы трацілася 48.405 р., а ў 1927-28 г. на гэта патрачана 133.744 руб., альбо 44,3 проц. усяго бюджэту. Паступова павялічваюцца выдаткі на гаспадарчыя і навуковыя патрэбы, на набыцьцё падручнікаў і школьнае будаўніцтва. Толькі ў папярэднім 1926-27 г. пабудавана 7 школ, з якіх 2 двухкамплектныя па пляну НКАсьветы, на што патрачана 26.213 руб. У 1927-28 г. на школьнае будаўніцтва асыгнавана 16.000 руб., на што распачата дабудоўвацца Мілаславіцкая 7-хгодка і ўжо пабудаваны Нядзьведзкая і Савініцкая школы і зроблен капітальны рамонт 11 школ.

З году ў год паступова пашыраецца школьная сетка. Калі ў 1917 г. школ па сучасным Клімавіцкім раёне было 31, то зараз маецца 98. Ня гледзячы на ўсе гэтыя мерапрыманьні, усё-ж такі школьная сетка і сетка палітасьветных устаноў ня можа задаволіць культурныя запатрабаваньні. Насяленьня ў раёне налічваецца 10.165 дзяцей школьнага ўзросту, а навучаецца 8028, у той час як школьная сетка разьлічана толькі на 6.590 чал. Такім чынам, мы маем перагрузку на 17,8 проц.

На працягу 1927-28 г. дзяржаўных лікпунктаў існавала 9, апрача гэтага дабравольных лікпунктаў было 15; за 1927-28 г. лікпункты ахапілі 776 асоб.

## Нацпытаньне.

У справе ажыцьцяўленьня практычных мерапрыманьняў па пытаньні нацпалітыкі прароблена значная праца. Так, 42 яўрэйскім сем'ям у 494 чал., якія пакінулі свае ранейшыя заняткі і пажадалі заняцца сельскай гаспадаркай, адведзена плошча ў 1157,63 гкт., на частцы якое ўжо арганізавана 3 с-г. калектывы і 6 т-в. У 1928 г. арганізавана ў гор. Клімавічах 9 саматужных арцеляў, у якіх занята 92 асобы. Павялічваецца і крэдытаваньне саматужнікаў. Нацменшасьці забясьпечаны нацыянальнымі школамі і часьцінна палітасьветнымі ўстановамі. На гэты час мы маем: яўрэйскіх школ—2, латыскіх— латыскую хату-чытальню. У раёне маецца нацыянальны латыскі Галіцка-Мыскі сельсавет. Усе ўстановы раёну працуюць на роднай мове, якая, трэба адзначыць, яшчэ слаба ўжываецца сярод мэдпрацаўнікоў.

## Ахова здароўя.

Значна пашырыліся выдаткі і на ахову здароўя. У 1924-25 г. на розныя віды аховы здароўя было адпушчана 2.996 руб., а ў 1927-28 г.—55.055 руб. Павялічылася таксама і сетка мэдычных устаноў (урач. пункты, амбуляторыя, вэндыспансэр, кансультацыя, яслі і інш.). Абслугоўваючы пэрсанал узрос з 39 асоб да 85. Заметна паляпшаецца лекавая дапамога насяленьню. Бясплатнае дапамогі насяленьню ў 27-28 г. дадзена на 11.743 руб. У 1928 г. для Клімавіцкай амбуляторыі набыт рэнтгенаўскі апарат. У райбольніцу, якая абсталявана на 75 ложкаў і абслугоўвае Клімавіцкі раён і раёны былой Калінішчыны, зварочваецца за дапамогай і насяленьне прымежных раёнаў Смаленшчыны.

## Праца сельсаветаў.

Прэзыдыумы сельсаветаў паступова ўцягваюць у працу членаў с.-с., сельскі актыў, жанчын, а таксама вясковую інтэлігенцыю. У апошні час ў значнай меры наглядаецца плянавасьць у іх рабоце і кіраўніцтва амаль што ўсімі ўстановамі, існуючымі на тэрыторыі с-саветаў. Частка сельсаветаў зьвярнула ўвагу на залучэньне сялянскіх сродкаў у каапэрацыю, на пабудову школ, шляхоў, арганізацыю т-ваў, асабліва мэліарацыйных. Але разам з добрымі бакамі ў працы с-сав. ёсьць яшчэ і шэраг недахопаў. Так, члены сельсаветаў і нават старшыні—ня стала вывучаюць законы савецкай улады, таксама ня стала знаёміцца з імі насяленьне: слаба працуюць камісіі пры сельсаветах, няпоўна залучаюцца ў працу члены с-саветаў і актыў вёскі; у большасьці няма вучоту актыву і ня ўсе сельсаветы разгарнулі гаспадарчую работу, дзякуючы неразуменьню адказнасьці і тых абавязкаў, якія на іх ускладаюцца, а таксама вялікай перагружанасьці канцэлярскай работай.

## Судова-сьледчыя і адміністрацыйныя органы.

Палепшылася праца судова-сьледчых і адміністрацыйных органаў. Асноўнымі момантамі ў сваёй працы адміністрацыйныя органы ставілі ахову рэвалюцыйнае законнасьці і азнаямленьне з ёю шырокіх колаў насяленьня (барацьба з рознымі злачынствамі ў раёне, асабліва крымінальнага напрамку, набліжэньне ўсяе працы да насельніцтва і азнаямленьне з ёю працоўных мас раёну).

## Бюджэт раёну.

Бюджэт раёну 1927-28 г. параўнальна з 1924-25 г., павялічыўся на 227.794 р., альбо на 307,1 пр. Раённы бюджэт у 1927-28 г. у даходнай частцы складаўся з 149.244 руб., а ў расходнай—301.957 р., гарадзкі бюджэт у даходнай частцы—з 116.266 руб. і ў расходнай—з 118.877 руб. Дэфіцыт пакрываецца за лік дзяржавы. У параўнаньні з папярэднімі гадамі значна павялічыліся непадатковыя прыбыткі.

## Заключэньне.

Падагульваючы вынікі дасягненьняў у культурна-гаспадарчым будаўніцтве раёну да 10-цігодзьдзя вольнае Беларусі, трэба яшчэ раз адзначыць, што гэтых дасягненьняў райвыканком дабіўся пры актыўным удзеле шырокіх колаў працоўных Клімаўшчыны, праявіўшых палітычную сьвядомасьць у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній у мінулым годзе, паказчыкам чаго зьяўляюцца: выпаўненьне с.-г. падатку на 99,6 проц., прыняцьце самаабкладаньня на 100,2 проц., выпаўненьне дзяржстрахаваньня на 95 проц., рэалізацыя сялянскае пазыкі на 111,2 проц., рэалізацыя першае пазыкі індустрыялізацыі на 134,8 проц. і другой пазыкі індустрыялізацыі—на 140 проц. (толькі на 20-XII—28 г.).

Наша агульная задача—пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі і надалей няўхільна ўзмацняць прамысловасьць, інтэнсіфікаваць с.-гаспадарку, якая мае найбольшую ролю ў жыцьці раёну і паднімаць грамадзка-палітычны і культурны ровень насяленьня.

Я. Князеў.

# Заўвагі аб працы Дрысенскага райвыканкому.

За апошнія два гады пераважная ўвага райвыканкому зьвярталася гаспадарчай рабоце; менш праяўлена было клопату па справе разгортваньня масавае працы. Калі гаварыць аб саветах, то плянаваньне работы наогул і арганізацыйна-масавае, у прыватнасьці, пастаўлена значна горш. Даволі адзначыць, што пляны саветаў Сардыкскага і Росіцкага за ўвесь час работы ад перавыбараў да моманту абсьледваньня амаль што зусім незьяўляліся рэгулятарам дзейнасьці саветаў. Выкананьне плянаў па райвыканкому дасягае 45 проц., па Сардыкскаму савету—14 проц., а па Росіцкаму—23 проц.

Пленум райвыканкому на працягу, асабліва апошняга, году працазаў слаба, так як за гэты год склікаўся толькі адзін раз,—а гэта кажа аб тым, што функцыі, прысвоеныя гэтаму шырокаму калактыву, выпаўняліся менш вузкім калактывам — прэзыдыумам, што зьяўляецца шкодным парушэньнем прынцыпу савецкай дэмакратыі. Сама праца пленуму і прэзыдыуму не насіла характару выстарчальна шырокай масавасьці. З боку райвыканкому ня прымалася захадаў для пераносу свае работы ў масы, не практыкавалася скліканьне пасяджэньняў у вёсках, а таксама запрашэньне на пасяджэньні вясковага актыву, жанчын і прадстаўнікоў ад грамадзкіх арганізацый. Дзякуючы гэтаму наведваньне пасяджэньняў пленуму і прэзыдыуму райвыканкому актывам і наогул працоўнымі масамі было зусім нязначным і выпадковым.

Райвыканкомам ня выкарыстана і работа існуючых пры ім камісій: зямельнай, лясной, падатковай, рэвізійнай і іншых. Разам з гэтым работа камісій не высьвятляецца сярод шырокіх мас, чаму апошнія мала ведаюць аб аб'ектах і напрамку іх работы. Між тым, калі-б райвыканком пэрыадычна практыкаваў пастаноўку дакладаў камісій на сходах, то гэта выклікала-б вялікую актыўнасьць сялянскіх мас, зацікавіла-б іх у рабоце камісій, што ў сваю чаргу спрыяла-б большаму ўзьняцьцю аўтарытэту гэтых камісій.

Скліканьне нарад практыкавалася райвыканкомам даволі шырока, і іх на працягу бягучага году было праведзена 12. На нарадах былі абмяркованы мерапрыманьні па загатоўках, самаабкладаньні, зямляўпарадкаваньні, сельска-гаспадарчым падатку і інш.

Недахопам работы нарад ва ўмовах райвыканкому зьяўляецца тое, што на іх прымалі ўдзел выключна працаўнікі раённых устаноў ды сельсаветаў, а савецкі актыў, працоўнае сялянства на нарады не залучалася, ад чаго вельмі зьмяншаецца значэньне нарад, як формы залучэньня мас у савецкае будаўніцтва.

На працягу бягучага году райвыканкому прышлося праводзіць цэлую сэрыю кампаній: аб самаабкладаньні, аб рэалізацыі пазык, аб пасяўной кампаніі і інш. Трэба адзначыць, што не асталося ні аднае вёскі ў раёне, дзе не пабывалі-б прадстаўнікі райвыканкому для ўдзелу на сходзе па вырашэньні таго ці іншага мерапрыманьня.

Поруч з гэтым райвыканкомам ня былі выкарыстаны агульныя сходы для разгортваньня шырокага грамадзкага кантролю і крытыкі працоўных мас вёскі і мястэчка навокал гаспадарчай дзейнасьці, шляхам пастаноўкі справаздач аб рабоце на сходах. Даволі сказаць, што райвыканком ад выбараў да гэтага часу ні разу не рабіў справаздач перад выбаршчыкамі, чаму апошнія слаба знаёмы з праведзенымі райвыканкомам мерапрыманьнямі і ня ведаюць перашкод, якія затрымліваюць правядзеньне нявыкананых мерапрыманьняў.

Недахватна скарыстаны і сходы беднаты, як апора ў працы райвыканкому і савету на мясцох.

Што дачыняецца масавай работы саветаў, то апошняя ў некаторай ступені нават павузілася параўнальна з мінулым годам. Аб гэтым сьведчыць зьмяншэньне ліку пасяджэньняў пленумаў і прэзыдыумаў, агульных сходаў і камісій.

Лёзунг аб разгортваньні крытыкі мас навокал работы саветаў практычна праломан слаба, чаму спрыяла адсутнасьць на працягу двух год справаздач перад выбаршчыкамі аб выпаўненьні іх наказаў.

Сталыя камісіі, арганізаваныя па дзьве пры кожным савеце (сельска-гаспадарчыя, культурна-санітарныя) амаль што зусім не працавалі з тае прычыны, што на працягу мінулага і бягучага гадоў ні райвыканком, ні саветы не праявілі патрэбнай увагі для наладжваньня і разгортваньня іх работы, хоць умовы для гэтага маюцца. За гэта гаворыць тое, што, напрыклад, па Росіцкім савеце культурна-санітарная камісія была складзена з 48 чалавек і ў пачатку свайго існаваньня разгарнула была работу. Першыя 3 пасяджэньні яе дакляравалі, што работа яе можа быць вельмі карыснаю; але-ж з прычыны летніх работ камісія працу спыніла, а па заканчэньні іх савет не паклапаціўся зноў зварушыць яе працу, чаму з таго часу камісія ніякае работы не вяла. Райвыканком-жа ні разу не абсьледваў становішча масавай работы саветаў, не займаўся вывучэньнем перашкод у яе разгортваньні і вызначэньнем практычных мерапрыманьняў для палепшаньня гэтае галіны працы.

Работа па залучэньні жанчын у практычную працу савецкіх органаў райвыканкомам і саветамі амаль што зусім ня была разгорнута. 5 жанчын, якія ўведзены ў склад членаў райвыканкомаму і саветаў, і 15 прымацованых да савецкіх органаў жанчын-дэлегатак ні ў якую практычную работу не залучаліся; выхаваўчае працы з імі таксама не вялося, апрача аднаго Дрысенскага местачковага савету. З прычыны такой пастаноўкі гэтае работы ў раёне кадр жанчын-актывістак расьце вельмі павольна, і райвыканкому ў надыходзячую перавыбарчую кампанію вельмі цяжка падабраць кандыдатуры жанчын для вылучэньня.

З боку апарату райвыкакому патрэбная ўважлівасьць і прыветлівасьць захоўваецца да наведвальнікаў; можна прызнаць, што гэтая справа ў райвыканкоме стаіць больш, менш нармальна. Калі-ж глянуць у саветы, то ў некаторых з іх можна найсьці ня вельмі добрыя прыклады. Так, у Росіцкім савеце быў выпадак, калі сакратар савету накінуўся на сялянку Л—„маўчы шляхцянка, ты брэшаш". Наўрад ці можна лічыць гэты прыклад выпадковым.

Вырашэньне пісьмовых заяў, скаргаў і хадайніцтваў ня мае сьлядоў шкодных парушэньняў з боку РВК; але прыклады цяга-

ніны бюракратызму ў райвыканкоме маюцца. Так, гр-н вёскі Шатрова, інвалід Бабчонак, з 1926 году дамагаецца, каб яго паслалі на ўрачэбна-кантрольную камісію для агляду і ўстанаўленьня яго непрацаздольнасьці па інваліднасьці, замест завочнага апрадзяленьня, вынесенага раней адпаведнай камісіяй.

Кіраўніцтва дзейнасьцю саветаў і падпарадкаваных установаў і арганізацый з боку райвыканкому праводзілася невыстарчальна. Асабліва мала было кіраўніцтва работаю саветаў: у той час, як у мінулым годзе райвыканком заслухаў справаздачы 4-х саветаў з 8, то ў бягучым годзе райвыканком не заслухаў і не праверыў ні аднаго савету. Такім чынам, 4 саветы ў раёне на ўжо працягу двух гадоў працуюць без праверкі з боку райвыканкому. Разам з гэтым заслухоўваньне дакладаў праводзіцца без папярэдняга абсьледаваньня і мае пераважна фармальны характар; у выніку па заслуханых справаздачах установаў і арганізацый дырэктыўныя пастановы былі невыстарчальна канкрэтны, няпоўны і не заўсёды адпавядалі жыцьцю. Характэрным прыкладам гэтаму служыць такі выпадак: райвыканком на працягу апошняга году два разы заслухоўваў даклады Дрысенскага лясьніцтва (абодва разы бяз папярэдняй праверкі). Па дакладах нічога ненармальнага ня было выяўлена. На справе-ж адміністрацыя лясьніцтва амаль што ўвесь год збывала лесаматар'ял у сваю карысьць, прысвойвала дзяржаўныя сродкі за сенажаць, падрабляла дакументы на фальшывыя выдаткі. Растрата, якая складае больш 2.000 рублёў, выкрыта толькі ў апошнія часы і то праз газэту.

У гаспадарчай рабоце райвыканкому даволі выразна адбіты асноўныя задачы, пастаўленыя партыяй і савецкай уладаю для ўзмацненьня нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

У галіне сельскае гаспадаркі. за гэты год дасягнуты такія посьпехі: арганізаваны дзьве новыя гаспадаркі, дзьве камуны і 13 таварыстваў (усяго з раней арганізаванымі цяпер налічваецца 6 калектыўных гаспадарак, 3 камуны, 13 таварыстваў). Зямляўпарадкавана значны лік паселішч, арганізавана 28 пасёлкаў, а таксама маюцца дасягненьні ў справе агранамічных мерапрыманьняў і дапамогі сельскай гаспадарцы. Лёзунг наступленьня на кулака знашоў свой адбітак у абрэзцы кулацкіх гаспадарак і перанясеньні падаткавага цяжару на гэтую групу гаспадарак.

Поруч з гэтым неабходна адзначыць, што райвыканком не скарыстаў у поўнай меры спагадныя ўмовы для пашырэньня арганізацыі калектыўных гаспадарак, чаму некаторая частка з іх распалася яшчэ да арганізацыйнага афармленьня (вёскі Трыбісы і Росца).

Таксама невыстарчальна было арганізацыйнага і культурнага абслугоўваньня існуючых сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, у выніку чаго наглядаецца некаторы адрыў сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў ад вёскі. Так, члены калектываў не наведваюць сходаў сялян вакольных вёсак, а таксама не запрашаюць да сябе на сходы прадстаўнікаў сялян, чаму аб'яднаньняўна сялян ўплыў гэтым сельска-гаспадарчых покуль што слабы. Побач з гэтым калектывы збываюць свае сельска-гаспадарчыя прадукты на прыватным рынку, а не праз каапэрацыю, прычым калектыў Спартак зусім адмовіўся перадаць сялянству насеньня збожжа па прапанове райвыканкому, а прадаў яго на прыватным рынку.

Таксама невыстарчальна праяўлена кіраўніцтва і рэгуляваньне работаю крэдытных арганізацый раёну. На працягу абодвых апошніх год райвыканком дакладна не правяраў, наколькі правільна захоўвалася клясавая лінія ў крэдытнай рабоце, якім гаспадаркам па сацыяльным складзе пападае найбольшая доля крэдытнай дапамогі. Між тым, маюцца прыклады парушэньня клясавай лініі, крэдытаваньня заможных. Вось некаторыя прыклады: Росіцкае крэдытнае таварыства выдала ў крэдыт ільнянае і канюшыннае насеньне гаспадарцы аднае грамадзянкі, якая мае 18 дзес. зямлі, трое коняй, трое кароў і 15 галоў дробнай жывёлы; Дрысенскае крэдытнае таварыства выдала ў крэдыт штучнае ўгнаеньне гаспадарцы, якая мае 120 дзес. зямлі, 6 коняй, 10 кароў і 30 галоў дробнай жывёлы; Росіцкае крэдытнае таварыства задаткі па контрактацыі выдавала ўсім гаспадаркам у аднольковай суме, не зьмяшчаючы задаткаў больш моцным гаспадаркам.

Фінансавая работа райвыканкому праводзілася без пакрыўленьня клясавай лініі, з захаваньнем інтарэсаў беднаты. Аслабаненьне ад сельска-гаспадарчага падатку, страхоўкі, самаабкладаньня бядняцкіх і незаможных гаспадарак і спагнаньне плацяжоў з неаслабанёных гаспадарак праводзілася адпаведна з існуючымі законамі. Аб гэтым сьведчыць тое, што скаргі былі толькі скаргі з боку гаспадарак, ападаткаваных індывідуальна (такіх гаспадарак у раёне налічваецца 45). Райвыканком, праўда, перагледзеў сьпіс гэтых гаспадарак і для 33 з іх зьнізіў налічаныя спачатку сумы.

Пры правядзеньні кампаніі самаабкладаньня ў некаторых саветах ня вызначан быў на сходах процант прымаемага самаабкладаньня і мэтавае прызначэньне яго сум, што пазьней зроблена было саветамі, а пры налічэньні самаабкладаньня дапушчаны былі выпадкі зьніжэньня яго не для бядняцкіх гаспадарак, а для больш моцных. Да гэтага райвыканкомам не праверана, як скарыстоўваюцца на мясцох сродкі самаабкладаньня.

Невыстарчальна было зьвернута ўвагі на ўнясеньне вольных сум насяленьня ў дзяржаўныя пазыкі: заданьне па рэалізацыі сялянскай пазыкі па ўсім раёне выпаўнена толькі ў памеры 44,4%, а заданьне па другой пазыцы індустрыялізацыі — амаль зусім не рэалізавана.

Не выпаўнена і дырэктыва III Сэсіі ЦВК БССР аб пашырэньні колькасьці саветаў з самастойнымі бюджэтамі. Па Дрысенскім раёне маецца поўная магчымасьць даць Росіцкаму сельсавету бюджэтныя правы: на тэрыторыі савету адбываюцца штотыдня кірмашы, існуе таварыства спажывецкай каапэрацыі, сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства, аддзяленьне Белдзяржгандлю і інш.

Пытаньні рэгуляваньня рынку, узмацненьня загатовак збожжа і іншай сырызны, барацьбы з прыватнікам і каапэраваньня насяленьня займаюць у дзейнасьці райвыканкому выстарчальнае месца. Праўда, праведзеная райвыканкомам работа не забясьпечыла поўнага выпаўненьня загатоўчых плянаў, але ў значнай меры паралізавала канкурэнцыю

паміж загатоўчых арганізацый. У вініку фінансавых мерапрыманьняў дзяржавы роля прыватніка на гандлёвым рынку раёну рэзка ўпала. На 1-Х—1928 году сетка гандлёвых прадпрыемстваў прыватніка зьнізілася да 31 пры агульным зваротным капітале ў 57.000, у той час, як на 1-Х—27 г. налічвалася 91 прадпрыемства са зваротным капіталам у 462 т. руб. Месца пасьля ўходу з гандлёвага рынку прыватніка каапэрацыйнымі і дзяржаўнымі, гандлёвымі арганізацыямі яшчэ не запоўнена. Сяляне скардзяцца, што нельга дастаць крэйды, серкі і інш. Гэтыя зьмены на гандлёвым рынку ўплылі ў некаторай меры на рост каапэраваньня насяленьня, якое па спажывецкай каапэрацыі дасягае 81 проц., а па сельска-гаспадарчай—57,8⁰/₀.

У будаўніцтве камунальнай гаспадаркі раёну з прычыны адсутнасьці сродкаў і належнага тэхнічнага кіраўніцтва былі перабоі (зрыў будаўніцтва цэлага сэзону ў мінулым годзе); школьнае будаўніцтва ад 10-ці гадовага пляну ўжо адстала на 4 школьных будынкі. Дырэктыва аб зьніжэньні кошту будаўніцтва не праведзена ў жыцьцё, ды выпаўніць яе немагчыма без арганізацыі правільнага кваліфікаванага кіраўніцтва праз стварэньне пры райвыканкоме камунальнай часткі з загадчыкам-спэцыялістам на чале, які-б адказваў за пастаноўку гэтай работы. Таксама ня было догляду з боку райвыканкому за будаўніцтвам.

Параўнаўча з гаспадарчымі галінамі работы пытаньням сацыяльна-культурнага характару з боку райвыканкому зьвярталася менш ўвагі. Райвыканкам ня ставіў перад сабою задач культурнай рэвалюцыі, як: ускарэньне тэмпу ліквідацыі няпісьменнасьці, барацьба з алкагалізмам, палепшаньне санітарных і гігіенічных умоў жыцьця і г. д.

Ня ўсё зроблена райвыканкомам у справе палепшаньня дабрабыту раённага цэнтру — м. Дрыссы, якое зруйнована ў час вайны, і цяпер няпрыемна выглядае сваімі спаленымі будынкамі і разбуранымі маставымі. Арганізаванымі арцелямі шаўцоў, краўцоў, шапачнікаў і іншых ахоплена далёка ня ўся бедняцкая частка насяленьня мястэчка, якая знаходзіцца ў вельмі заняпалым эканамічным становішчы. Усё гэта выклікае неабходнасьць с к а р э й ш а г а ўпарадкаваньня Дрыссы.

**А. Л.**

## Як прайшла справаздачная кампанія ў Бабруйшчыне.

На 25 сьнежня 1928 г. па 115 сельсаветах, 10 раёнаў акругі—а ў Бабруйшчыне налічваецца 13 раёнаў з 216 сельскімі і местачковымі саветамі — адбылося 737 справаздачных сходаў з 860 намечаных плянам, што складае 80,6 проц. пляну.

З агульнага ліку выбаршчыкаў па гэтых 115 саветах на справаздачныя сходы явілася толькі 39,6 проц., што яўляецца яшчэ невыстарчальным. Пры гэтым трэба адзначыць, што па асобных раёнах яўка апускаецца значна ніжэй: Чырвона-Слабодзкі р.—29 проц., Любаньскі—23 проц., Бабруйскі—33 проц. і г. д. Яшчэ горш справа стаіць з яўкаю жанчын, якая ў сярэднім раўняецца толькі 15,9 проц. і па значным ліку раёнаў хістаецца між 11—14 проц. Найбольшую яўку выбаршчыкаў маюць Клічаўскі і Асіповіцкі раёны—па 50 проц., Парыцкі—48 процантаў, Сьвіслацкі—47 проц. і Жлобінскі—43 проц. Добрую яўку даюць і нацыянальныя саветы, якая мясцамі падымаецца да 60 проц. (Стрэшынскі і Шчадрынскі с.-с.).

Агульная яўка па гарадзкіх саветах (даныя маюцца толькі па Слуцку, Рагачэву і Жлобіну) н а с я л е н ь н я, аргіназаванага ў прафсаюзы, хістаецца між 43—59 проц., а жанчын—між 43—49 проц. Агульная-ж яўка неаргіназаванага насяленьня выражаецца 18,3 проц., а для жанчын—14,3 проц.

Хоць прыведзеныя даныя не яўляюцца яшчэ аканчальнымі і характарызуюць яўку выбаршчыкаў на справаздачныя сходы толькі па палавіне саветаў, але наўрад ці можна спадзявацца на тое, што аканчальныя даныя значна выправяць прыведзеныя лічбы. Загэтым трэба зьвярнуць увагу на выяўленьне прычын, перашкодзіўшых больш поўнай яўцы выбаршчыкаў на справаздачныя сходы з тым, каб у час выбарчай кампаніі іх зьнішчыць і павялічыць процант яўкі на выбарчыя сходы.

Актыўнасьць беднаты параўнальна з мінулымі кампаніямі наогул узмацнілася. Бедната выступае на справаздачных сходах з крытыкай працы саветаў, адзначаючы асобныя выпадкі выкрыўленьня клясавай лініі (Гарохаўскі с.-с., Парыцкага р.). Нават маюцца выпадкі, калі праца Саветаў прызнавалася не здавальняльнай (Бялевіцкі с.-с., Чырвона-Слабодзкага р.). Павялічэньню актыўнасьці беднаты значна дапамаглі перадсправаздачныя сходы беднаты (па 8-мі раёнах акругі па 25 сьнежня 1928 г. праведзена 187 сходаў), на якіх ставіліся справаздачы сельсаветаў і абгаварываліся кандыдатуры ў саветы.

Серадлякі ў асноўнай сваёй масе выступаюць сумесна з беднякамі.

Значна адчуваецца і актыўнасьць кулацтва, пры чым маюцца выпадкі, калі кулацкаму ўплыву падпадаюць серадлякі і бедлякі (Парыцкі местачковы савет). Кулацкія выступленьні накіроўваюцца пераважна супроць законаў аб сельска-гаспадарчым падатку і самаабкладаньні і супроць ільгот беднаце. Мясцамі кулакі ўжываюць мэтады тэрарызаваньня асобных актывістых, беднякоў і нават цэлых сходаў. Так, напрыклад, у Прасаўскім с.-с., Парыцкага р. заможнікі пабілі бедняка (пасьля справаздачнага сходу) за тое, што ён падтрымаў прапанову аб правядзеньні самаабкладаньня; у вёсцы Касьсё, Сьвіслацкага р., кулакі прабавалі сарваць сход беднаты, а дзе павінна было абгаворвацца пытаньне аб самаабкладаньні, і арыштаваць прэзыдыум сходу; у вёсцы Віркава, таксама Свіслацкага р., у час абгаварэньня на справаздачным сходзе пытаньня аб самаабкладаньні ў вакно, супроць сядзеўшага там прадстаўніка райвыканкому быў выстаўлен абрэз; у Якшыцкім с.-с. бедната, баючыся помсты кулакоў, не хацела зьбірацца на справаздачны сход. Апрача мэтадаў тэрору, кулакі стараюцца на час справаздачных сходаў утвараць розныя пагулянкі, каб гэтым самым адцягнуць увагу моладзі ад справаздачных сходаў. Аднак, усе гэтыя патугі кулацтва ня маюць посьпеху, усе яны разьбіваюцца аб згуртаванасьць беднякоў і серадлякоў,

**І. Р.**

# Агляд пастаноў па пытаньнях будаўніцтва саветаў.

## За лістапад 1928 г.

3-га лістапада Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў пастанову аб правядзеньні конкурсу на лепшую сэкцыю гарадзкога савету і лепшы сельскі і местачковы саветы з іх камісіямі. Згодна гэтай пастановы конкурс павінен быў распачацца 1 сьнежня 1928 г. і павінен скончыцца да 1 красавіка 1929 г. Для практычнага правядзеньня конкурсу і кіраваньня ім утворана Цэнтральная Камісія пры Прэзыдыуму ЦВК, у акругах утвораны акруговыя камісіі па правядзеньню конкурса і ў раёнах—камісіі садзейнічаньня. Мэты конкурса наступныя: праверка работы саветаў, выяўленьне лепшых прыкладаў масавай работы і распаўсюджваньне іх на іншыя саветы, максымальнае ўцягненьне працоўных мас у работу саветаў, выяўленьне адмоўных бакоў у дзейнасьці саветаў, узмацненьні ролі саветаў, як органаў дыктатуры пралетарыяту, праверка выкананьня дырэктыў аб ажыўленьні дзейнасьці саветаў. Пры правядзеньні конкурса прызнана неабходным прэміраваньне, апрача лепшых па рабоце саветаў, сэкцый і камісій, таксама і лепшых карэспандэнцый.

3-га лістапада Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў цыркуляр усім АВК і РВК аб узмацненьні дзейнасьці раённых, сельскіх і местачковых рэвізійных камісій. Цыркуляр падкрэсьлівае павялічэньне ролі рэвізійных камісій, як органаў грамадзкага кантролю, у сувязі з пашырэньнем гаспадарчай дзейнасьці РВК, узростам іх бюджэтаў, узмацненьнем нізавых саветаў і пашырэньнем колькасьці сельскіх саветаў, якія маюць самастойныя бюджэты. Адзначаючы сучасную маладзейнасьць рэвізійных камісій, з прычыны неадпаведнасьці іх складу спэцыяльнай рабоце камісій, цыркуляр прапануе ўжываць папярэдняе абгаварэньне выбаршчыкамі кандыдатур у рэвізійныя камісіі і выбары ў апошнія толькі асоб, здольных працаваць у галіне кантрольнай работы; азнаямленьне выбаршчыкаў з задачамі і мэтамі рэвізійных камісій; абавязковую справаздачнасьць апошніх на раённых зьездах саветаў і прадвыбарчых сходах; дапамогу рэвкамісіям з боку вышэйстаячых выканаўчых камітэтаў і шчыльную сувязь рэвізійных камісій з органамі фінансавага кантролю, у мэтах вывучэньня тэхнічнага боку кантрольнай работы, а таксама шчыльную сувязь з грамадзкімі арганізацыямі.

III Сэсія ЦВК БССР VIII скліканьня па дакладу аб масавай рабоце саветаў прыняла, паміж іншым, пастанову аб арганізацыі інструктажу пры больш буйных РВК. У выкананьне гэтай пастанове Прэзыдыум ЦВК БССР 17 лістапада прынцыпова ўстанавіў, што больш буйнымі раёнамі, у якіх павінна быць уведзена пасада інструктара, трэба лічыць раёны з 15 і болей сельскімі саветамі. Такіх раёнаў у БССР маецца 38, г. зн.—37% усёй колькасьці раёну. У сучасны момант пастаноўлена з 1 сьнежня 1928 г. ўвесьці інструктаж толькі ў тых раёнах, дзе налічваецца 20 і больш сельскіх саветаў. Такіх раёнаў у БССР маецца 15, гэта значыць 14,7% усёй колькасьці раёнаў.

## За сьнежань 1928 г.

20 сьнежня Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў цыркуляр АВК, РВК і Гарадзкім Саветам аб адказнасьці кіраўнікоў саветаў і выканаўчых камітэтаў за парушэньне дырэктыў аб палепшаньні і узмацненьні масавай работы і аб ажыцьцяўленьні савецкае дэмакратыі. Цыркуляр устанаўляе, што дзеяньні кіраўнікоў саветаў і выканаўчых камітэтаў, якія перашкаджаюць узмацненьню масавай работы і ажыцьцяўленьню савецкай дэмакратыі, у пасобку нясклікаaccount пленумаў і прэзыдыумаў, бязьдзейнасьць камісій, парушэньне законаў аб пэрыядычнай справаздачнасьці перад выбаршчыкамі, падмена работы пленумаў і прэзыдыумаў работай кіруючых работнікаў, зьняцьце выбарных работнікаў без належных падстаў і г. д. складаюць злачынствы і правіннасьці, прадугледжаныя Крымінальным Кодэксам, як нядбайныя і нясумленныя адносіны да службовых абавязкаў, бязьдзейнасьць улады і перавышэньне яе (195—197 арт. арт.). Усіх асоб вінаватых у пералічаных вышэй злачынствах і правіннасьцях, прапанована няўхільна прыцягваць да адказнасьці. Гэты цыркуляр выданы Прэзыдыумам III Сэсіі ЦВК паводле даручэньня III Сэсіі ЦВК БССР VIII скліканьня.

22 сьнежня Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў прыняты Саветам Народных Камісараў праэкт новага палажэньня аб гарадзкіх саветах і скасаў палажэньне аб гарадзкіх саветах 1926 году. Больш падрабязна аб новым палажэньні гаворыцца ў спэцыяльным артыкуле, які зьмешчан у гэтым-жа № „Саветаў Беларусі".

27 сьнежня Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў цыркуляр АВК аб удасканаленьні справы інструктаваньня саветаў і РВК. Прапанована поўнасьцю ўкамплектаваць інструктарскія пасады пры АВК і таксама пры РВК, дзе такія вызначаны, асобамі дастатковай кваліфікацыі; зьнішчаць цякучасьць інструктарскага складу і вызваліць яго ад канцалярскай нагрузкі; клапаціцца аб павышэньні кваліфікацыі інструктароў; увесьці плянавасьць у інструктарскую работу і надаць ёй характар ня толькі рэвізійны, а і паказальна-практычны ў форме дапамогі інструктаваньня работнікаў саветаў ці выканкомаў.

27 сьнежня Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў цыркуляр АВК, РВК і гарадзкім саветам аб адказнасьці за парушэньне падатку скліканьня выбарчых і справаздачных сходаў і за перашкоду працоўным ажыцьцяўляць іх выбарчае права. Цыркуляр прапануе абвяшчаць кожнаму выбаршчыку не пазьней як за 5 дзён, праз іменныя выбарчыя позвы, аб часе і месцы выбарчага сходу і ў той-жа тэрмін абвяшчаць аб часе і месцы справаздачных сходаў. Службовых асоб, якія будуць парушаць гэты парадак, прапануецца прыцягваць да адказнасьці па 196 арт. Крымінальнага Кодэксу. Прапанована ўстанавіць асобны нагляд за тым, каб рабочым, батракам, хатнім работніцам і іншым працоўным не перашкаджалі яўляцца на справаздачныя і выбарчыя сходы тыя асобы, у якіх яны працуюць па найму. Пры ўстанаўленьні няўмысных перашкод прапанована абавязкова прыцягваць вінаватых асоб да крымінальнай адказнасьці.

29 сьнежня Прэзыдыум ЦВК устанавіў новыя нормы прадстаўніцтва ў гарадзкія саветы, скасаваўшы пры гэтым нормы 1927 г. Апошнія нормы былі выдадзены толькі на 1927 г., цяпер-жа устаноўлены нормы на неабмежаваны тэрмін. Нормы устаноўлены наступныя: у гарадох з насельніцтвам ад 3.000 да 5.000 ч. выбіраецца 1 дэпутат на 30 выбаршчыкаў; ад 5.000 да 7.000—1 дэпутат на 35 выбаршчыкаў; ад 7.000 да 10.000—1 дэпутат на 45 выбаршчыкаў; ад 10.000 да 15.000 —1 дэпутат на 50 выбаршчыкаў; ад 15.000 да 20.000—1 дэпутат на 60 выбаршчыкаў; ад 20.000 да 30.000—1 дэпутат на 75 выбаршчыкаў; ад 30.000 да 80.000 —1 дэпутат на 100 выбаршчыкаў і з насельніцтвам больш 80.000 чалавек—1 дэпутат на 150 выбаршчыкмў. **А. П.**

## Кулака ня пусьцім у саветы.

Падрыхтоўка да перавыбараў саветаў сёлета праходзіць па акрузе пры вялізарным абвастрэньні клясавай барацьбы. Цёмны элемэнт вёскі—кулак і падкулачнік— адкрыта выступаюць на барацьбу з бедняком і серадняком за месца ў савеце.

У вёсцы Банкратавічы, Бабруйскага раёну, мясцовыя кулакі арганізоўваюць свае „прадвыбарныя“ вячоркі, на якія заклікаюць сялян і там вядуць сваю працу.

Восаўскія кулакі (Бабруйскі раён) увесь час агітуюць сярод сялянства за кандыдатуру Хадасевіча.

У вёсцы Данілава, Парыцкага раёну, кулак Бржазоўскі распаўсюджвае чуткі аб вайне і раіць беднасьці выяжджаць у Амэрыку. У вёсцы Пратасы кулацтва спаліла гумно вясковага актывістага, там-жа ў другі раз пабілі кулакі бедняка, які галасаваў за самаабкладаньне.

Кулак актывізуецца, рыхтуецца да перавыбараў пасвойму, стараючыся парушыць арганізаванасьць беднаты і серадняцтва.

А аб тым, што гэтая арганізаванасьць беднаты і серадняцтва ёсьць—сьведчаць факты. Па Парыцкаму раёну пайшла пераклічка між вёскамі: вёскі выклікаюць адна другую на больш стойкую барацьбу з кулацтвам. Вось пастанова аднаго з сялянскіх сходаў:

— **„Сход беднаты вёскі Дамілаўка вітае актыўных барацьбітоў з кулацтвам — беднякоў вёскі Пратасы і выклікае іх на актыўны ўдзел у перавыбарах, каб не дапусьціць уплыву кулакоў на выбарчых сходах. Даручыць т. Шакуру Адаму напісаць ліст беднякам вёскі Пратасы“.**

Гэта яскравы прыклад арганізаванасьці беднаты, сьвядомых адносін да перавыбараў саветаў.

Гэтая сьвядомасьць і сур'ёзнасьць адносін да перавыбараў характарызуецца яшчэ і тым, што бедната і серадняцтва вядзе рашучую і строгую самакрытыку ў працы існуючых саветаў.

Яшчэ нядаўна Хімаўская бедната заявіла аб тым, што іх старшыня сельсавету сьпеўся з заможнікамі, і выкрыла шэраг яго злачынстваў. У апошнія дні з Багушоўскага сельсавету (Бабруйскі раён), Азярынскага (Рагачоўскі раён) і Бацэвіцкага (Клічаўскі раён, атрымоўваюцца зьвесткі аб кепскай працы сельскіх саветаў.

Гэта сьведчыць аб тым, што бедната зорка сочыць за чыстатою сваіх сельсаветаў. Аб гэтым і гавораць першыя зьвесткі аб праведзеных перавыборах. Так у Малевіцкім і Стара-Руднянскім сельсаветах, Жлобінскага раёну, бедната і серадняцтва актыўна ўдзельнічала на перавыбарах, правяліла кулацкія кандыдатуры і правяла свае

На дапамогу беднаце і серадняцтву ў вёску для ўдзелу ў перавыбарах выехалі рабочыя дружыны. Агульнымі сіламі кулацтва будзе пераможана.

Кулака ня пусьцім у саветы!

**А. Дамброўскі.**

## Да ўсіх работнікаў саветаў і выканкомаў. Да ўсіх савецкіх актывістых і актывістак.

*ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!*

*Выходзіць ужо 5-ты нумар „Саветы Беларусі“ ў якасьці кіруючага органу па пытаньнях масавай працы саветаў.*

*Аднак, да гэтага часу, на жаль, „Саветы Беларусі“ не спаткалі яшчэ на мясцох тае ўвагі, якую павінны былі спаткаць. Матар'ялы, зьмешчаныя ў „Саветах Беларусі“, не захоўваюцца, мала яшчэ пішуць нам з саветаў і раёнаў, што пазбаўляе рэдакцыю магчымасьці поўнасьцю рэалізаваць мэты, пастаўленыя перад саветамі Беларусі ў пачатку іх выданьня—зрабіць іх настольным падручнікам кожнага савецкага працаўніка і актывістага, крыніцай сыстэматычнага абмену вопытам працы, месцам усебаковага высьвятленьня і абгаварэньня новых прапаноў і спрэчных пытаньняў.*

*Ня гледзячы на адзначаныя недахопы, мы лічым вопыт спэцыяльнага, пэрыядычнага кіруючага выданьня па савецкім будаўніцтве сябе апраўдаўшым. Надаючы вялізарнае значэньне справе далейшага палепшаньня выданьня, пашырэньня кола яго чытачоў і карыстаючыхся ім у штодзённай працы, зварочваемся да Вас з заклікам:*

*Захоўвайце „Саветы Беларусі“, вывучайце зьмешчаныя там матар'ялы і карыстайцеся імі ў сваёй працы.*

*Растлумачце падпарадкаваным установам значэньне выданьня, неабходнасьць яго выхаваньня і выкарыстаньня.*

*Больш пішэце аб працы на мясцох, высоўвайце свае прапановы і запытаньні на старонках „Саветаў Беларусі“.*

*Вярбуйце сярод Вашых таварышоў, сярод рабочых і вясковых карэспандэнтаў, дапішчыкаў для „Саветаў Беларусі“.*

*Матар'ялы накіроўвайце па адрасу: Менск, Аргаддзел ЦВК для „Саветаў Беларусі“.*

А. Хацкевіч.

Менск, друкарня „БДВ“. Галоўлітбел № 302.